*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 52 (1099) 26 СНЕЖНЯ 2012 г.**

# З Новым 2013 годам!



### Шаноўныя сябры Таварыства беларускай мовы, прыхільнікі і рупліўцы роднага слова!

Падыходзіць да свайго завяршэння 2012 год. Дзякуй вам за тое, што вы былі з намі, падтрымлівалі матэрыяльна, прымалі ўдзел у нашых мерапрыемствах, ініцыявалі розныя кампаніі. Мы з вамі шмат што зрабілі ў адыходзячым годзе дзеля пашырэння мовы, але яшчэ больш мусім зрабіць у наступным.

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" віншуе вас з традыцыйнымі зімовымі святамі: Днём Божага нараджэння, Калядамі і Новым 2013 годам. Мы жадаем вам і вашым блізкім добрага здароўя на ўвесь наступны год, прыемных свят і аптымізму.

*Сакратарыят ТБМ.*

## Пісьменніца Алена Васілевіч адзначыла сваё 90-годдзе



Алена Васілевіч нарадзілася 22 снежня 1922 у засценку Даманшчына (цяпер вёска Ліпнікі) Слуцкага раёна Менскай вобласці. Засталася без бацькоў на восьмым годзе жыцця. Выхоўвалася ў сваякоў. Скончыла літаратурны факультэт Рагачоўскага настаўніцкага інстытута (1941). У час Другой Сусветнай вайны працавала бібліятэкарам у шпіталі, пісарам шыхтовай часткі, начальнікам бібліятэкі. У 1946 скончыла філалагічны факультэт БДУ. Працавала літкансультантам, загадчыкам аддзела культуры часопіса "Работніца і сялянка", загадчыкам рэдакцыі літаратуры для юнацтва выдавецтваў "Мастацкая літаратура", "Юнацтва". Сябра СП СССР з 1947. Першы мастацкі твор (апавесць "У прасторах жыцця") надрукавала ў 1947 (часопіс "Беларусь"). Напісала кніжкі апавяданняў, аповесць "Шляхі-дарогі" (1950), цыкл аповесцяў "Расці, Ганька" (1966), "Доля цябе знойдзе" (1968), "Новы свет" (1970), "Пачакай, затрымайся…" (1970), якія склалі тэтралогію "Пачакай, затрымайся…" (1972). Аўтар кніг "Люблю, хвалююся, жыву" (нататкі, эсэ, 1986), "Элегія" (апавяданні, эцюды, эсэ, 1988). Выдадзены Выбраныя творы ў 3 тамах (1982-1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976) за тэтралогію "Пачакай, затрымайся…".

На кнігах Алены Васілевіч выгадавалася не адно пакаленне беларусаў. Літаратурны крытык Ала Сямёнава піша: "За свой пісьменніцкі шлях яна расказвала пра чалавека. Пра жанчыну. Пра дзяцей. Пра жыццёвыя дачыненні і калізіі. Пра ўзаемаадносіны людзей. Тонка разумеючы іх псіхалогію. Умеючы паглядзець на свет з добрым гумарам і разуменнем, з мяккай усмешлівай ироніяй. З вельмі адчувальным лірызмам".

*ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"*

## 90 гадоў таму назад выйшаў першы нумар часопіса "Полымя"




20 снежня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбыўся юбілейны вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня выхаду ў свет першага нумара часопіса "Полымя".

Першыя дзесяць год (да 1932) часопісам кіравала рэдакцыйная калегія, у яе ўваходзілі Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Міхась Зарэцкі, Усевалад Ігнатоўскі, Янка Купала, Якуб Колас, В. Нодэль, А. Сянкевіч, Міхась Чарот і інш. У 1932-1941 гадах часопіс выходзіў пад назвай "Полымя рэвалюцыі". У гады Вялікай Айчыннай вайны не выходзіў у свет. Адноўлены ў студзені 1945 года па распараджэнні Савета Міністраў БССР.

Менавіта ў "Полымі" друкавалі свае знакамітыя творы Платон Галавач, Цішка Гартны, Кузьма Чорны, народныя пісьмен-нікі і народныя паэты Беларусі Іван Мележ, Янка Брыль, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Іван Чыгрынаў, Іван Навуменка, а таксама Уладзімір Караткевіч, Вячаслаў Адамчык, Барыс Сачанка. Літаратурныя традыцыі, закладзеныя папярэднімі пакаленнямі беларускіх майстроў слова, працягваюцца ў творах сённяшніх аўтараў гэтага аўтарытэтнага выдання.




З нагоды 90-гадовага юбілею часопіса Нацыянальная бібліятэка Беларусі падрыхтавала кніжна-ілюстрацыйную выставу ""Полымя" - этапы творчага станаўлення", якая раскрывае змест часопіса з самага першага нумара 1922 года да апошняга на сённяшні дзень.

З прывітальным словам на юбілейным вечары выступілі першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Матусевіч, дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы "Выдавецкі дом "Звязда"" Аляксандр Карлюкевіч, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў і інш.

Адна з галоўных задач часопіса "Полымя", заснавальнікам якога з'яўляецца Саюз пісьменнікаў Беларусі - на сваіх старонках прапагандаваць усё лепшае, што ствараецца сучаснымі беларускімі пісьменнікамі і садзейнічае развіццю духоўнай моцы нашай дзяржавы з дапамогай мастацкага слова.

*Паводле сайту Нацыянальнай бібліятэкі.*


ISSN 2073-7033
9 772073 703003

## АЛЯКСЕЮ БЕЛАМУ - 60



20 снежня вядомы барановіцкі паэт і журналіст Аляксей Белы адзначыў дзень народзінаў. З-пад пяра творцы выйшла пяць паэтычных зборнікаў: "Тридцать второе августа", "Невольничьи песни", "Каляровыя сны", "Боскі вецер правінцыі" і "Кветкі ў стагах". "Неўзабаве павінна ўбачыць свет і шостая кніга яго вершаў", - расказаў Аляксей Белы. Выданне атрымае назву "Прыватны сектар".

-Я быў у гарах, я сплаўляўся па горных рэках. Але я яшчэ спадзяюся ўзняцца на Эльбрус і раблю для гэтага адпаведныя захады. Хутка выходзіць мая шостая кніга вершаў. На жаль, апошнім часам мне сумна, што знікае на-ша мова, што знікае наша нацыянальная культура. Краіна не рухаецца наперад. Вось гэта сумна! Калі ў юнацтве было больш аптымізму, то зараз яго менш. Тым не менш, спадзяванкі на лепшае ёсць. І я спадзяюся, што мы будзем жыць лепш. Я маю на ўвазе краіну ў цэлым. Наш народ.

Аляксей Белы - не толькі таленавіты паэт, але і прафесійны журналіст, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускай асацыяцыі журналістаў, а таксама Беларускага ПЭН-цэнтра, які ёсць часткай сусветнай арганізацыі прафесійных пісьменнікаў - Міжнароднага ПЭН-клуба. Ад 2006 года Аляксей Белы таксама - дырэктар-галоўны рэдактар прыватнага ўнітарнага прадпрыемства "ІнтэксПрэс-Рэгіён".

- Момантаў, калі цябе штосьці здзіўляе і ўражвае, з гадамі з'яўляецца ўсё меней. Таму, відома, у юнацтве пісалася больш, чым цяпер. Дарослы чалавек увесь час заняты нейкімі справамі. Гэтага патрабуе і рытм цяперашняга жыцця. У нас ва ўсіх ёсць абавязкі перад блізкімі людзьмі, і мы мусім выконваць іх сумленна. А на творчасць застаецца ўжо толькі тое, што застаецца. Але ў мяне няма шкадавання з той нагоды, што я не аддаю сваёй творчасці ўвесь час. Калі Бог даў нам гэтую здольнасць, то чалавек знойдзе час і пакіне пасля сябе ўсё, што яму наканавана пакінуць.

Аляксей Белы называе сваіх суродзічаў "цудоўнымі" і прызнаецца, што з задавальненнем выбіраецца на сваю малую радзіму.

- У Міхневічах, што ў Івацэвіцкім раёне, я заўсёды дома, як дома ў Баранавічах, дзе жыву з 1977-га года, - адзначыў Аляксей Белы.

*Радыё Рацыя.*

№ 52 (1099) 26 СНЕЖНЯ 2012 г. Наша слова

# Два слоўнікі і розныя думкі

**Слоўнік беларускай мовы** / Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы; уклад. Н. П. Еўсіевіч [і інш.] ; навук. рэд. А. А. Лукашанец, В. П. Русак. Каля 150 тыс. слоў. Мінск: Беларуская навука, 2012, 916 с.

Піскуноў Ф.А. **Вялікі слоўнік беларускай мовы.** Кансультацыйная рада: Г.М.Бураўкін, А.І.Вярцінскі, Р.Г.Гарэцкі, Н.С.Гілевіч, А.А.Каўрус, Г.А.Цыхун і інш. Каля 223 тыс. слоў. Мінск: выдавец Зміцер Колас, 2012, 1196+16 с.

Бягуць дні апошніх тыдняў 2012 года, і - калі не спраўдзіцца злавесны прагноз календара племені мая пра немінучы канец свету ў трэцяй дэкадзе сёлетняга снежня - неўзабаве гэты год зробіцца гісторыяй. Напрыканцы кожнага года прынята вызначаць самыя важныя падзеі ў розных сферах жыцця. Не аднаго мяне цікавіць найперш беларускае культурнае і інтэлектуальнае жыццё. У гэтым сэнсе год, бясспрэчна, не выглядае "пустым": нямала выйшла вартых увагі кніг, сёе-тое з'явілася на тэатральнай сцэне і ў кінематографе, ладзіліся цікавыя і нават сенсацыйныя мастацкія выставы…

І ўсё ж, калі б пытанне: "Што самае важнае адбылося ў беларускай культуры сёлета?" задалі мне, я, не вагаючыся, адказаў бы: для мяне падзеяй нумар адзін стаў выхад з друку "Вялікага слоўніка беларускай мовы".

Гэты слоўнік роднай мовы - сапраўды "вялікі", найаб'ёмнейшы з тых, што калінебудзь былі выдадзеныя на паперы. Дагэтуль слоўнікам з найбольшай колькасцю беларускіх загалоўных слоў быў апублікаваны "Беларускай Савецкай Энцыклапедыяй" у 1987 годзе "Слоўнік беларускай мовы" пад рэдакцыяй акадэміка Мікалая Бірылы.

Прозвішча аўтараўкладальніка новага капітальнага слоўніка вы (пакуль што) не знойдзеце ні ў адным айчынным мовазнаўчым даведніку. Таму варта сказаць пра яго некалькі слоў: **Фёдар Антонавіч Піскуноў**, у 1971 годзе закончыў хімфак БДУ, далей працаваў у тэхнічнай сферы: быў навуковым супрацоўнікам Інстытута электронікі НАН Беларусі, у 2008 - 2010 гадах навуковым супрацоўнікам Фізічна-тэхнічнага інстытута НАН Беларусі.

Як бачыце аўтарам самага поўнага на сёння слоўніка беларускай мовы з'яўляецца зусім не спецыяліст-філолаг.

На добры лад, "Вялікі слоўнік беларускай мовы" мусіў бы быць створаны рупнасцю акадэмічнага інстытута, і, магчыма, змяшчаць не 223 тысячы слоў, як слоўнік Фёдара Піскунова, а яшчэ і болей. І акадэмічны інстытут - маю на ўвазе Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы - сапраўды нешта стварыў: сёлета ў выдавецтве "Беларуская навука" з друку выйшаў "Слоўнік беларускай мовы" пад рэдакцыяй аднаго з аўтараў апошняй арфаграфічнай рэформы прафесара і доктара філалагічных навук **Аляксандра Лукашанца**. У гэтага даведніка, як гэта і належыць выданням падобнага кшталту, больш за дзясятак аўтараў-укладальнікаў, на яго выданне быў зроблены дзяржзаказ, атрымана, відаць што, немалая датацыя з дзяржаўнага бюджэту.

Калі ў мяне пад рукою апынуліся абедзве згаданыя навінкі айчыннай лексікаграфіі, мне, натуральна, захацелася іх параўнаць. Слоўнік Фёдара Піскунова ўразіў не толькі сваім аб'ёмам, які быў дасягнуты ў выніку электроннай апрацоўкі больш як сямідзесяці мільёнаў (!) словаўжыванняў, зафіксаваных у прыкладна 2300 беларускамоўных пісьмовых крыніцах. Выклікае павагу грунтоўны падыход аўтара да той часткі слоўніка, якая ў падзагалоўку акрэслена як "парадыгматыка". Для абсалютнай большасці загалоўных слоў, уключаных у "Вялікі слоўнік беларускай мовы", Фёдар Піскуноў распрацаваў арыгінальную сістэму адсылак да мадэльных узораў словазмянення. Інакш кажучы, той, хто будзе карыстацца гэтым слоўнікам, лёгка здолее праскланяць нават вельмі рэдкаўжывальны назоўнік ці праспрагаць нават той дзеяслоў, які не зафіксаваны ў грунтоўным "Граматычным слоўніку дзеяслова", выпушчаным Нацыянальнай Акадэміяй навук пяць гадоў таму.

Слоўнік Фёдара Піскунова - годны і, як кажуць, "сіметрычны" адказ тым асобам, якія займаюць нават найвышэйшыя дзяржаўныя пасады і сцвярджаюць, нібыта на свеце ёсць толькі дзве паўнавартасныя мовы - руская і англійская, - а няшчасная беларуская ўсё пакутуе ад недахопу сродкаў самавыражэння. Гэта таксама адказ тым, у галовах якіх неўміручай гідраю ажывае сіндром "малодшага брата". Хачу пры выпадку нагадаць, што самыя вялікія на сённяшні дзень выдадзеныя арфаграфічныя слоўнікі рускай мовы ўключаюць 180 тысяч (акадэмічны слоўнік маскоўскага Інстытута рускай мовы) і 130 тысяч (слоўнік расійскага лінгвіста Мікалая Салаўёва) загалоўных слоў. У той самы час 17-томны "Словарь русского языка", які выдаваўся Акадэміяй навук СССР на працягу шаснаццаці гадоў (1950-1965) меў 150 тысяч слоўнікавых артыкулаў.

Вядома, праца такога ахопу матэрыялу і проста "фізічнага" аб'ёму не магла абысціся без паасобных недахопаў або спрэчных момантаў. Частка іх слушна заўважана ў рэцэнзіі лінгвіста з той жа Акадэміі навук, кандыдата філалагічных навук Мікалая Крыўко, апублікаванай колькі месяцаў таму на старонках штотыднёвіка "Наша слова". Я кажу менавіта пра частку гэтых заўваг, бо ў згаданай рэцэнзіі, як мне здаецца, не-не ды прарываецца прыхаваная крыўда: як жа так, нейкі неспецыяліст у галіне мовазнаўства за некалькі гадоў зрабіў працу, якую акадэмічны інстытут, у якім сам Мікалай Крыўко працуе не адзін дзясятак гадоў, так і не золеў "пацягнуць". Тут самая пара перайсці да кароткага агляду таго самага, акадэмічнага "Слоўніка беларускай мовы", які, напэўна, усё-такі меў няшчасце выйсці адначасова са слоўнікам Фёдара Піскунова.

Чаму "няшчасце"? Здаецца, дзяржаўнае выдавецтва "Беларуская навука" выдрукавала працу акадэмічных мовазнаўцаў на якаснай паперы, "апранула" кнігу ў дыхтоўную вокладку і кошт яго вызначыла зусім не завоблачны, паводле цяперашніх маштабаў - ад 59 да 70 тысяч беларускіх рублёў. Ну, але ж кожны разумее, што галоўнае - гэта тое, што ў кнізе ўнутры. Ужо ў прадмове да свайго слоўніка акадэмічныя лінгвісты прызнаюцца, што ў яго аснову пакладзены ўсё той жа, згаданы намі вышэй, "Слоўнік беларускай мовы" пад рэдакцыяй Мікалая Бірылы, які, напамінаю, выйшаў чвэрць стагоддзя таму.

Свайго часу гэта сапраўды быў найлепшы моўны даведнік роднай мовы, але ж час ідзе, мяняюцца людзі, мяняецца мова…

Аўтары акадэмічнага слоўніка з гонарам абвяшчаюць, што да рэестру ранейшага, бірылаўскага, слоўніка было дададзена больш за трыццаць тысяч новых лексічных адзінак - таму, маўляў, на тытульным лісце пазначана "каля 150 тысяч слоў". Стоп! Не спяшаймася верыць на слова паважаным вучоным. У сваім водгуку на старонках "Нашага слова" філолагі Юрась Пацюпа і Крысціна Пучынская прыводзяць свае падлікі: згодна з імі, у слоўніку пад рэдакцыяй Лукашанца нават недзе на тысячу менш загалоўных слоў, чым у слоўніку пад рэдакцыяй Бірылы! На сайце slounik.org, колькасць слоў у акадэмічным слоўніку падаецца ледзьве большай за 114 тысяч, а "самы аптымістычны" падлік належыць рэцэнзенту слоўніка, прафесару з Гародні Івану Лепешаву, які ацэньвае гэтую колькасць прыблізна ў 129 тысяч.

Няўжо цяга да ўсялякага кшталту прыпісак, што пышным цветам буяла ў дзяржаўных установах савецкага часу так і не пераадоленая нават акадэмічнымі лінгвістамі за больш як дваццаць гадоў існавання незалежнай Беларусі?

Нехта скажа: вядома, кепска, што акадэмічны слоўнік так значна прайграе ў колькасці артыкулаў у параўнанні з аўтарскім слоўнікам Фёдара Піскунова, але характарыстыкай больш важнай за агульны аб'ём, напэўна, усё-такі з'яўляецца рэпрэзентатыўнасць слоўніка - г.зн., разумны, навукова абгрунтаваны (паводле частотнасці ўжывання) адбор слоў, што меліся быць абавязкова ўключаныя ў яго склад.

Ну, што ж, спынімся крыху і на рэпрэзентатыўнасці слоўніка пад рэдакцыяй Аляксандра Лукашанца. Пабежны яго прагляд прымушае западозрыць аўтарскі калектыў у пэўнай тэндэнцыйнасці, якая сяды-тады, як у тыя сумна вядомыя трыццатыя гады, мае палітычную "падкладку". Найбольш яскравы прыклад - адсутнасць у акадэмічным слоўніку цэлага гнязда слоў з коранем ***спадар-*** ("спадар", "спадарства", "спадарыня"). Чыноўнікі, якія ў канцы 1990-х- на пачатку 2000-х гадоў працавалі на розных пасадах пад кіраўніцтвам народжанага ў Туле палкоўніка Замяталіна, расказвалі мне, як гэты высокапастаўлены з ласкі прэзідэнта чыноўнік зацята змагаўся з ужываннем вышэйзгаданых слоў у сваіх і падначаленых сваім установах. Па-мойму, страх у некаторых акадэмічных мовазнаўцаў так дагэтуль і не прайшоў…

Ніяк не магу зразумець, чаму ў слоўніку 1987 года выдання, які выходзіў у свет пад пільным вокам самай атэістычнай у савецкай імперыі камуністычнай партыі Беларусі, слова ***Вялікдзень*** (якое тады пісалася з малой літары) было, а ў выданні 2012 года, калі высокія чыноўнікі па вялікіх святах нават заходзяць у царкву, гэтага слова папросту няма!

Цяперашні слоўнік апрацоўвала цэлая група навукоўцаў, большасць з якіх мае навуковыя ступені, але хоць забіце мяне, ды не знаходжу тлумачэнняў такой акалічнасці, што ў слоўніку пад рэдакцыяй Аляксандра Лукашанца адсутнічае слова ***тамсама***! Такое ўражанне, што акадэмічныя мовазнаўцы ніколі ў сваім жыцці не публікавалі навуковых артыкулаў з адсылкамі да іншых цытаваных раней крыніц (кшталту: *гл. тамсама, с. 59*).

У 1985 годзе малады тады філолаг Анатоль Верабей апублікаваў кнігу пра творчасць незабыўнага Уладзіміра Караткевіча, якая зрабілася настольнай у шмат каго з універсітэцкіх выкладчыкаў і школьных настаўнікаў. Кніга называлася "Жывая повязь часоў". У 2002 годзе падзеяй нашага культурнага жыцця стаў выхад кнігі менскай мастацтвазнаўцы Вольгі Лабачэўскай "Повязь часоў - беларускі ручнік". Некалькі месяцаў таму ў полацкім дзяржаўным музеі кнігадрукавання працавала выстава пад назвай "Повязь часоў". Загалоўкі публікацый з ужываннем натуральнага беларускага слова ***повязь*** з'яўляліся ў "Народнай газеце", "Мінскай газеце ", віцебскім "Народным слове", нават на сайце берасцейскага БРСМ… Але ў акадэмічным "Слоўніку беларускай мовы" гэтага слова вы не знойдзеце.

Зноў-такі нехта з апанентаў можа запярэчыць: маўляў, аўтары палічылі, што згаданыя словы ў тыя заяўленыя 150 тысяч "не трапляюць", не такія яны ўжо часта ўжывальныя. Магу толькі задаць пытанне ў адказ, а што, уключаныя ў акадэмічны слоўнік словы накшталт *бабувіст, вагануць, вагулка, талрэп, шаранець* і т.д. сустракаюцца ў тэкстах часцей, чым тыя самыя ***спадар, Вялікдзень, тамсама, повязь***? Да спісу дыскрымінаваных акадэмічнымі лінгвістамі слоў магу, услед за Іванам Лепешавым, дадаць і такія зусім не рэдкія ў сучаснай моўнай практыцы словы, як: ***атрымоўваць, дэмбель, землятрус, напрыканцы, нататнік, прылюдна, сексот*** (і ***стукач***!), ***суразмоўца, сярэднявечча, хваласпеў, хмарачос, хрушчоўка, шараговы*** і яшчэ шмат якія іншыя.

Трэба тут заўважыць, што, калі Фёдар Піскуноў вызначае ў прадмове да свайго слоўніка яго ролю ў тым, каб "як мага паўней зафіксаваць матэрыял, раскіданы па розных, збольшага маладаступных, выданнях", дык аўтарыўкладальнікі акадэмічнага слоўніка без ценю сумневаў рэкамендуюць яго як нарматыўны даведнік. Калі ўлічыць магчымую псеўдаініцыятыўнасць ды запабеглівасць пэўных прыўладных чыноўнікаў, справа можа дайсці да таго, што ў лік забароненых у беларускай мове слоў з іх ласкі патрапіць не толькі ***спадар*** (бедны аўтар "Баркулабаўскай хронікі" з XVII стагоддзя! Пісаў ён у гэтым выдатным творы пра "спадарыню" і не падазраваў, як ён няправільна робіць у вачах уладаў будучай РБ і яе некаторых акадэмічных супрацоўнікаў!)

Мушу сказаць, што задума гэтага артыкула ўзнікла ў мяне яшчэ некалькі месяцаў таму - адразу пасля таго, як абодва слоўнікі, пра якія ідзе тут гаворка, сышлі з друкарскіх варштатаў (акадэмічны друкаваўся ў сучаснай вялікай дзяржаўнай друкарні, аўтарскі - на рызографе сціплага прыватнага выдаўца Змітра Коласа). Але якраз у той самы час па Менску пачалі кружляць чуткі, нібыта акадэмічны Інстытут мовы і літаратуры чарговы раз, быццам той адсталы калгас, збіраюцца "ўзбуйняць". Не хацелася даваць лішніх аргументаў тым, хто задумаў гэтую нядобрую справу. Але цяпер, наколькі мне вядома, загад аб аб'яднанні згаданага інстытута з Інстытутам этнаграфіі, мастацтвазнаўства і фальклору ды стварэнні "Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры" ўжо зацверджаны. Мовазнаўцы, што працуюць у Акадэміі навук, апынаюцца яшчэ на больш далёкіх задворках. У апошнія дзесяць гадоў мудрага кіравання… самі ведаеце каго абарона доктарскай дысертацыі па беларускім мовазнаўстве ў Акадэміі навук стала надзвычайнай рэдкасцю; узмацняць інтэлектуальны патэнцыял беларускіх лінгвістычных даследаванняў робіцца ўсё цяжэй. Я пішу гэта, добра ўсведамляючы, што відавочныя хібы згаданага акадэмічнага слоўніка ёсць у тым ліку вынікам хранічнага недафінансавання беларускіх філалагічных навук: маладыя спецыялісты, трапляючы на працу ў акадэмічны інстытут, мусяць найперш думаць пра ўладкаванне сваіх побытавых праблем, а не пра якасць сваёй працы, у той час як самыя таленавітыя філолагі папярэдніх пакаленняў або выязджаюць за мяжу або сыходзяць, у тым ліку скончыўшы свой зямны шлях.

Мінулы цыкл аб'яднання і "ўзбуйнення" акадэмічных інстытутаў мовы, літаратуры і мастацтва (1931-1957 гг.) меў іншую прычыну: тое пакаленне беларусістаў папросту фізічна вынішчалі або высылалі ў край, дзе мовазнаўцам заставалася толькі даследаваць блатную "феню"…

Цяперашняя ж улада, ірацыянальна бачачы ва ўсім беларускім пагрозу для свайго існавання, аб'ядноўвае і "ўзбуйняе" акадэмічныя інстытуты, відаць, толькі дзеля таго, каб "гэтых беларускамоўных" як мага менш было на агульных сходах Акадэміі навук, каб усё менш і менш людзей гэтай сферы магло хоць бы нясмела данесці свой клопат, сваю нязбыўную трывогу з прычыны татальнага, цынічнага, падмацаванага напорыстай дэмагогіяй вынішчэння беларускамоўных асяродкаў у краіне. Пры гэтым беларускім навукоўцам-гуманітарыям настойліва падказваецца: ніякай альтэрнатывы ў вас не будзе, калі вы наважыцеся з нечым спрачацца, а пагатоў пратэставаць. Нядаўні пагром часопіса "Arche", для якога былі выкарыстаныя паслугі дзяржаўнай падаткавай інспекцыі, - выразны сігнал таго, што прыўладныя структуры не спыняцца ні перад чым, каб па-герастратаўску вынішчыць у Беларусі ўсё жывое, што яшчэ застаецца ў гуманітарнай сферы. Нагадаю, дарэчы, што менавіта рэдакцыя гэтага часопіса толькі за апошнія два з паловай гады здолела перавыдаць найлепшыя працы беларускіх мовазнаўцаў 1920-х гадоў, у тым ліку чатыры тоўстыя тамы слоўнікаў беларускай тэрміналогіі, знакаміты "Расійска-беларускі-слоўнік" Сцяпана Некрашэвіча і Міколы Байкова, дыялектныя слоўнікі Міколы Шатэрніка і Міколы Каспяровіча…

Ну як жа сучасным уладатрымальнікам гаварыць пра "беднасць беларускай мовы", калі не патаптацца па яе багаццях? Вось і топчуцца.

***Лявон Баршчэўскі,***
*кандыдат*
*філалагічных навук.*



# У Менску прайшла прэзентацыя новых выданняў беларуска-рускага і руска-беларускага слоўнікаў

"Беларуска-рускі слоўнік" (4-е выданне) і "Русско-белорусский словарь" (10-е выданне) з улікам зменаў у правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі прэзентаваныя 21 снежня ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа ў Менску.

Зараз у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі" выдадзены ўсе тры тамы руска-беларускага слоўніка і два з трох - беларуска-рускага, апошні том павінен выйсці да канца гэтага года.

Першыя выданні слоўнікаў убачылі свет у 1953 і 1963 гадах адпаведна, іх распрацоўкай займаліся Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка ды іншыя значныя фігуры беларускай літаратуры і мовазнаўства. Галоўным рэдактарам сучасных выданняў слоўнікаў выступіў дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі доктар філалагічных навук Аляксандр Лукашанец.

На прэзентацыі мовазнаўца адзначыў, што слоўнікі, падрыхтаваныя з улікам новых правіл арфаграфіі і пунктуацыі, будуць вельмі запатрабаваныя ўсімі тымі, хто "карыстаецца пісьмовай беларускай мовай, а таксама тымі ўстановамі, якія забяспечваюць навучанне на беларускай мове".

У каментарыі БелаПАН А. Лукашанец распавёў, што ў апошняе выданне слоўнікаў уключана новая актуальная лексіка, якая пашырылася ў беларускім маўленні ў апошнія дзесяцігоддзі. Гэта найперш тыя запазычанні, для якіх важна арфаграфічная ўніфікацыя і якія шырока выкарыстоўваюцца.

Апрача слоў, якія прыходзяць у беларускую мову з іншых моў, у слоўніку таксама адлюстраваная "велізарная колькасць слоў, якія з'яўляюцца менавіта на беларускай моўнай глебе". Аднак, як заначыў філолаг, для кожнай такой моўнай адзінкі павінен прайсці пэўны час апрабацыі, каб яна трапіла ў слоўнік.

***nn.by***

# Вось вам і “нехлямяжыя” беларусы

21 снежня стала вядома, што ўсе праязныя квіткі на студзень надыходзячага 2013 года, якія прапануюць сталічным пасажырам, надрукаваныя ўжо не на беларускай, як звычайна, а на рускай мове. Карэспандэнты TUT.BY першымі забілі трывогу і паспрабавалі атрымаць каментар па пытанні "русіфікацыі" друкаванай прадукцыі "Мінсктранса" непасрэдна ў тых, хто яе замаўляе і распаўсюджвае.




Аднак даведацца, што канкрэтна вымусіла ДП "Мінсктранс" адмовіцца ад беларускай мовы ў праязных квітках, не ўдалося.

Беларускае грамадства затое адрэагавала імгненна. Сакратарыят ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” адразу 21 снежня на сваім паседжанні прыняў адпаведны зварот:

## *Зварот Сакратарыяту ТБМ да грамадзян Беларусі*

*Шаноўныя грамадзяне Беларусі, а найперш жыхары Мінска!*

*ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" атрымала інфармацыю пра тое, што нечакана "Мінсктранс" праігнараваў дзяржаўнасць беларускай мовы пры распрацоўцы праязных білетаў на розныя віды транспарту на студзень 2013 года. Нагадаем, што з 1990 года ўсе праязныя білеты ў горадзе Мінску афармляліся на дзяржаўнай беларускай мове, і гэты факт станоўча ўспрымаўся грамадзянамі нашай краіны.*

*Мы заклікаем усіх неабыякавых людзей у год юбілею класікаў беларускай літаратуры Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка засведчыць сваю адданасць роднай мове і пісьмова звярнуцца ў "Мінсктранс" з патрабаваннем вярнуць дзяржаўную беларускую мову на праязныя білеты.*

Аднак найбольш аператыўнай аказалася Інтэрнэт-супольнасць Беларусі. Дзесяткі, сотні, тысячы (партал TUT.BY), пратэстаў, абурэнняў патрабаванняў пасыпаліся ў адрас "Мінсктранс". Такіх эпітэтаў у свой адрас чыноўнікі з гэтай арганізацыі не чулі, бадай, ніколі. Загулі ўсе сайты Беларусі. Пайшлі электронныя лісты ў "Мінсктранс". Пад гарачую руку дасталося і “старэйшаму брату”. І ўжо 22 снежня парталу TUT.BY паведамілі ў дзяржпрадпрыемстве "Мінсктранс":

- Пры размяшчэнні заяўкі на выраб шматразовых праязных квіткоў на студзень выканаўцам была дапушчана памылка, у выніку чаго квіткі былі надрукаваныя на рускай мове. За нізкі кантроль і паніжаную патрабавальнасць да падначаленых дырэктар філіялу "Агенцтва "Мінсктранс"" прыцягнута да дысцыплінарнай адказнасці. З лютага праязныя квіткі будуць друкавацца на беларускай мове.

Раней у "Мінсктрансе" казалі, што друкаванне праязных па-расейску звязана з тым, што нарматыўны дакумент, які рэгуляваў тарыфы на праезд у грамадскім транспарце, быў перакладзены на расейскую мову, і мова тэксту на праязных павінна адпавядаць мове гэтага акту.

Карэспандэнту "Свабоды" ў "Агенцтве "Мінсктранс"" тлумачылі, што гэты нарматыўны акт нібыта быў выдадзены ў Міністэрстве фінансаў. Аднак, як высветлілася, ні Міністэрства фінансаў, ні Міністэрства эканомікі не маюць да гэтага дачынення.

Прадстаўніца прадпрыемства Вольга Качан сказала па тэлефоне карэспандэнту "Свабоды":

- Вы лічыце, што гэта такая складаная праблема, калі ў рэспубліцы ў большай палове гарадоў выкарыстоўваецца руская мова для праязных білетаў? І толькі чамусьці ў Менску гэта стала вялікай праблемай. А вы пацікавіліся, у якіх яшчэ гарадах Беларусі праязныя білеты, і на чыгунцы, на рускай мове? І толькі вось гэты пераклад выклікаў у вас такую буру пытанняў.

Пацікавіліся, і ведаем, што ў многіх месцах Беларусі праязныя дакументы друкуюцца па-руску, але яшчэ ведаем, што гэта не нармальна і не правільна.

І ведаем таксама, што Інтэрнэт-супольнасць, якая паставіла на месца русіфікатараў з "Мінсктранса", гэта ў асноўнай масе - беларуская моладзь, а менавіта за ёй будучыня.

Старанна ўбіваецца нам у галовы казка пра памяркоўных і нехлямяжых беларусаў, але бывае і ў казкі канец - адна Інтэрнэт-атака, але якая эфектыўная, бо падчас яе слова сказаў сам народ.

***Наш кар.***

# Лаціна па-беларуску

## Выйшаў беларускамоўны вучэбны дапаможнік па лацінскай мове з грыфам Мінстэрства адукацыі

У выдавецтве БДУ выйшаў беларускамоўны вучэбны дапаможнік па лацінскай мове для студэнтаў гуманітарных спецыяльнасцяў.

Аўтары - супрацоўнікі кафедры класічнай філалогіі філфака БДУ Г. І. Шаўчэнка, А. В. Гарнік, К. А. Тананушка.

У сучаснай вышэйшай адукацыі значнае месца адводзіцца самастойнай рабоце студэнтаў, што актывізуе індывідуальныя здольнасці і пашырае лагічны патэнцыял навучэнцаў. У сувязі з гэтым змяніліся патрабаванні да падручнікаў, праграм і планаў Гэты вучэбны дапаможнік адпавядае ўсім сучасным патрабаванням. У ім выразна і лаканічна прэзентуецца граматычны матэрыял, праілюстраваны яскравымі прыкладамі, што дапамагае вывучэнню прадмета, лепшаму разуменню і засвойванню лексікі, атрыманню суцэльнага і закончанага цыклу ведаў.




У вучэбным дапаможніку прыводзяцца тэарэтычныя звесткі аб граматычным ладзе лацінскай мовы, якія спалучаюцца з практычнымі заданнямі па адпаведных тэмах, а таксама хрэстаматыяй з арыгінальных тэкстаў класічных рымскіх і постлацінскіх аўтараў.

Тэарэтычны матэрыял замацоўваецца практыкаваннямі і вучэбнымі тэкстамі, а таксама хрэстаматыяй, якая прыводзіцца ў практычнай частцы выдання. Урыўкі з твораў старажытнарымскіх аўтараў, біблейскіх і сярэднявечных тэкстаў, лацінамоўнай літаратуры беларускага і заходнееўрапейскага Адраджэння падабраны з улікам амаль усіх літаратурных стыляў Яны пашыраюць пазнавальна-адукацыйны аспект вывучэння латыні і яе міжпрадметныя сувязі з іншымі дысцыплінамі гуманітарнага цыклу. Асобнае месца ў хрэстаматыі займаюць тэксты, якія адлюстроўваюць нацыянальны каларыт Беларусі. Многія матэрыялы звязаны з айчыннай гісторыяй.

Вучэбны дапаможнік можа быць выкарыстаны таксама для самастойнага вывучэння лацінскай мовы ў якасці даведніка па раздзелах граматыкі.

Выданне ўключае лацінска-беларускі і беларуска-лацінскі слоўнікі.

Аўтары спадзяюцца, што насуперак прадузятасці наконт цяжкасці і неадольнай нудоты латыні студэнты знойдуць у ёй шмат цікавага і ахвотна ўвойдуць у дзіўны свет прыгожага пісьменства, каб далучыцца да невычэрпнай крыніцы еўрапейскай культуры.

***Наш кар.***

# “Камунарка” беларусізуецца?

На абгортках некаторых гатункаў цукерак фабрыкі “Камунарка” ўжо прымяняюцца надпісы на беларускай мове. Наколькі гэтая з’ява будзе мець працяг, газета “Наша слова” будзе адсочваць і паведамляць.

***Наш кар.***






***У серыі “Выбітныя шахматныя кампазітары Беларусі” выйшла паштоўка, прысвечаная колішняму актыўнаму аўтару “Нашага слова” Яўгену Дзвізаву.***

# Пасха. З гісторыі свята Пасхі. Вялікі пост

Вялікі Пост прызначаны падрыхтаваць людзей духоўна да Пасхі. Гэта вялікае свята мае сваю гісторыю. Разгледзім асноўныя пытанні.

**Пасха Старазапаветная** (яўр. *Песах* - зн. *праходжанне, выбаўленне*) - самае галоўнае свята яўрэйскага народа. Яно было ўстаноўлена Богам перад выхадам ізраільцянаў з Егіпта ў той час, калі фараон, хоць і абяцаў, але не адпускаў іх у пустыню на ўскладанне ахвяраў. І толькі тады, калі Гасподзь аб'явіў у краіне самую страшную меру пакарання - забіццё егіпецкіх першынцаў, пачынаючы ад кіраўніка краіны да першынца рабыні і ўсяго першароднага ад статка, ён убачыў сілу Божую і адпусціў (Вых. 12, 12-14).

Павага да свята Пасхі была і ў язычнікаў. Так, напрыклад, пры рымлянах, якія завявалі Ізраіль, увайшоў звычай адпускаць на волю па жаданні народа аднаго са злачынцаў, асуджанага на пакаранне смерцю. У евангеліста Марка чытаем: *"Быў звычай, калі на свята Пасхі намеснік даваў волю аднаму вязню, якога хацеў народ "* (Мк 27, 15).

Ісус Хрыстос у апошні раз правёў Старазапаветную Пасху з Апосталамі перад самымі Сваімі пакутамі, ustanavіўшы тады і найвялікшае новазапаветнае Таінства Святой Еўхарыстыі. Калі вучні Яго яшчэ ўзляжалі за сталом (пасля вавілонскага палону ў яўрэяў быў уведзены звычай не сядзець за сталом, а ўзляжаць) і елі, Ён *"узяў хлеб, паблаславіў яго, паламаў і, раздаючы вучням, сказаў: "Бярыце і ешце, гэта ёсць Цела Маё". Пасля ўзяў чашу, прамовіў словы ўдзячнасці і падаў ім, кажучы: "Піце з яе ўсе, бо гэта ёсць Кроў Мая Новага Запавету, якая будзе праліта за многіх дзеля адпушчэння грахоў"* (Мф. 26, 26-28). У евангеліста Лукі чытаем таксама: *"Пасля Ён узяў хлеб, прамовіў хвалу ўдзячнасці, паламаў яго і падаў ім, кажучы: "Гэта ёсць Цела Маё, якое за вас будзе выдадзена: рабіце гэта на ўспамін пра Мяне". Так і ... пасля вячэры, кажучы: "Гэта чаша - Новы Запавет у Маёй Крыві, якая за вас будзе праліта "* (Лк. 22, 19-20).

Затым Сын Божы пaведаміў Сваім вучням, што Яму ўжо нядоўга быць з імі і даў новую Запаведзь - любіць адзін аднаго, як Ён Сам любіць іх, вучыў іх быць пакорнымі. Апосталу Пятру прадказаў, што ён тройчы адрачэцца ад Яго. Умацоўваў вучняў у веры, супакойваў і прасіў, каб яны былі цвёрдымі ў сваіх перакананнях без Яго і мелі надзею на сустрэчу з Ім у Валадарстве Нябесным (Мф. 26, 3-35; Мк. 14, 26-31; Лк. 22, 31-38; Ін. 13, 13-38; 14, 17).

**Пасха Новазапаветная, Хрысціянская** - самае вялікае, самае радаснае, а разам з тым і самае старажытнае свята Уваскрэсення Хрыстовага. У крыжовай смерці і Уваскрэсенні Госпада з памерлых заключаецца аснова, сэнс усяго хрысціянства. З падамлення аб гэтай падзеі Апосталы пачыналі свае евангельскія пропаведзі, на ёй усё абгрунтоўвалі і ўсё злучалі. Вакол смерці і Увакрэсення Ісуса Хрыста канцэнтруюцца ўсе важнейшыя дагматы нашай веры і ўсе нашы высокія надзеі (1 Кар. 15).

Адным са звычаяў, звязаных са святам Пасхі, з'яўляецца звычай цалаваць адзін аднаго (хрыстосавацца). У Новым Запавеце чытаем: *"Прывітайце адзін другога з цалаваннем святым. Вітаюць вас усе Цэрквы Хрыстовы"* (Рым. 16, 16).

Пры гэтым вернікі становяцца падобнымі да вучняў і вучаніц Хрыстовых таго часу, калі яны гутарылі паміж сабой аб Уваскрэсенні Госпада.

Звычай дарыць чырвоныя яйкі вядзе пачатак, паводле падання, ад Марыі Магдаліны, калі яна прыйшла ў Рым для пропаведзі Евангелля і, наведаўшы імператара Тыверыя (14-37 гг.), дала яму чырвонае яйка са словамі: *"Хрыстос Уваскрэс! "* - і такім чынам пачала сваю пропаведзь.

Яйка - сімвал жыцця, чырвоны колер - Кроў Хрыста, Які Сваім Уваскрэсеннем дараваў людзям жыццё вечнае.

**Перадвялікодны тыдзень** - тыдзень напярэдадні свята Пасхі. Пачынаецца ён Вербнай (або Пальмавай) нядзеляй, якой нагадваецца ўваход Госпада Ісуса Хрыста ў Іерусалім (Мк. 11, 1-11; Лк. 19, 29-44; Ін. 12, 12-19). У Евангеліі паводле Св. Матфея чытаем: *"Калі падышлі да Іерусаліма і прыйшлі ў Віфагію на гары Елеонскай, тады Ісус паслаў двух вучняў і сказаў ім: "Ідзіце ў паселішча, якое перад вамі, і там адразу знойдзеце прывязаную асліцу і асляня пры ёй. Адвяжыце яе і прывядзіце да Мяне". Вучні пайшлі і зрабілі так, як загадваў ім Ісус. Прывялі асліцу і асляня, паклалі на іх адзенне сваё, і Ён сеў на яго. А велізарны натоўп рассцілаў адзенне сваё на дарозе, іншыя абцінаілі галлё з дрэў і слалі таксама на дарозе. А народ, перад Ім і за Ім ідучы, гучна ўсклікаў: "Асанна Сыну Давідаваму! Бласлаўлёны Той, Хто прыходзіць у імя Госпада! Асанна на вышынях!" Калі ехаў Ён у Іерусалім, увесь горад быў узрушаны, усе пыталіся: "Хто гэта?" А людзі адказвалі: "Гэта Прарок, Ісус з Назарэта Галілейскага"* (Мф. 21, 1-2; 21, 6-11).

У лацінскім абрадзе святочнай Імшы падчас Вербнай нядзелі папярэднічае працэсія з галінкамі, якая пачынаецца па-за храмам. Пасля блаславення галінак і евангельскага чытання аб уваходзе Госпада ў Іерусалім яна рухаецца да касцёла. У гэтай працэсіі выкарыстоўваюцца пальмавыя і аліўкавыя галінкі, у паўночных краінах - галінкі больш даступнага дрэва - вярбы, а таксама букеты з траў і кветак. У некаторых краінах існуе звычай рассцілаць галінкі на шляху працэсіі.

Працэсія Вербнай нядзелі нагадвае ўрачысты ўваход Ісуса Хрыста ў Іерусалім і бярэ пачатак з літургічнай практыкі Іерусалімскай Царквы IV ст., калі народ на чале з біскупам збіраўся на гары Елеонскай і пасля выканання гімнаў, антыфонаў, малітваў і чытанняў тэкстаў з Бібліі спускаўся ў горад, трымаючы галінкі і працягваючы спяваць гімны і псалмы.

У V-VI стст. гэты абрад пераняті іншыя Цэрквы Усходу, у прыватнасці Канстанцінопальская. Першыя ўпамінанні аб пранікненні такога абраду на Захад адносяцца да VII ст. З цягам часу з'явіўся абрад блаславення (асвячэння) галінак.

У Сярэдзія вякі ў заходніх краінах былі распаўсюджаны звычаі несці на чале працэсіі Кнігу Евангелля, Крыж, Святыя Дары (у Англіі і Нармандыі), драўляную выяву асла, на якім устанаўлівалася статуя Хрыста (у Германіі). У Мілане Хрыста сімвалічна ўяўляў архіепіскап на кані. Прыгожы абрад *шествия на осляти* на Вербную нядзелю існаваў і ў дапятроўскай Расіі: сам цар вёў каня, трымаючы за аброць, а на кані сядзеў патрыярх.

**Пра час святкавання Пасхі.** У раннім хрысціянстве, як відаць з Правіл і Пастаноў Апостальскіх, святкаваўся тыдзень пакут і тыдзень Уваскрэсення Госпада. Непасрэдна для самога свята быў вызначаны дзень пасля вясенняга раўнадзенства і засўёдь пасля іудзейскай Пасхі. Спрэчкі, якія ўзнікалі аб часе свята, спыніў I Усяленскі Сабор (325 г.), які пастанавіў, каб усе хрысціяне святкавалі Пасху ў першую нядзелю пасля вясенняга раўнадзенства. Цяпер распрацаваны спецыяльны метад вызначэння свята Пасхі ў календары года.

У нашай краіне існуе розніца ў даце святкавання Пасхі Каталіцкай і Праваслаўнай Цэрквамі ў залежнасці ад прынятага імі календара - юліянскага ці грыгарыянскага.

**Вялікі пост.** Як ужо гаварылася, пытаннем вылічэння месца свята ў гадавым календары займаецца пасхалія - метад вылічэння даты Пасхі. Пасхалія ў розныя гістарычныя перыяды вар'іравала ў розных мясцовых традыцыях, яна і па сённяшні дзень не выяўляе адзінства ў хрысціянскім свеце.

Вялікі пост па часе займае сорак дзён. Такі тэрмін пераняты ад Сына Божага. Менавіта сорак дзён пасціўся ў пустыні Ісус Хрыстос. Таму Царква справядліва разважыла: калі бязгрэшны Хрыстос паліцыў патрэбным столькі пасціцца, тым больш гэта патрэбна нам, грэшным членам Царквы.

Старажытнейшае бясспрэчнае ўказанне на Вялікі пост перад Пасхай на працягу сарака дзён змяшчаецца ў 2-ім святочным Пасхальным пасланні свяціцеля Афанасія Вялікага, якое адносіцца да 330 г. Абавязковае захоўванне посту замацавана 69-м Апостальскім правілам.

Пост - не гіпотэза, а гісторыя, якая мае глыбокія і жывыя карані. Пост - гэта форма рэлігійнага аскетызму, практыкаванне духу, душы і цела на шляху да выратавання.

*"Вялікі пост - гэта што-гадовае паломніцтва ў сваю свядомасць, дзе Царква адкрывае нам сутнасць і заданне для нашага жыцця"*, - кажа протапрэсвітар Аляксандр Шмеман.

Вялікі пост у каталікаў захоўваецца перад Пасхай на працягу 40 дзён, за выключэннем двух святочных дзён: Св. Іосіфа (19.03) і Дабравешчання (25.03). Сучасныя каталікі ў захаванні посту кіруюцца Апостальскай Канстытуцыяй "Paenitemmi", абвешчанай Папам Паўлам VI 17.02.1966 г., у адпаведнасці з якой 40-дзённы Вялікі пост (40 дзён, не лічачы нядзель) з'яўляецца перыядам пакаяння.

У Праваслаўнай Царкве тлумачэнні пра пост даюцца ў Тыпіконе, Номаканоне, Мінеі, Трыёдзі і Часаслове.

*(Працяг будзе.)*

*Ксёндз-пробашч Мінскага касцёла Св. Сымона і Св. Алены*
***У. Завальнюк,***
*магістр тэалогіі, кандыдат гістарычных навук.*

# Рыцары свабоды і сумлення







Пад такой назвай 19 снежня ў рамках праекту "Будзьма" ў Лідскім каледжы прайшла літаратурна-музычная імпрэза, у якой бралі ўдзел Алена Прохарава, Раман Яраш, Раман Абрамчук і Павел Каралёў. Імпрэза прысвечана філаматам і Ўладзіміру Караткевічу і завязана на той факт, што адзін з віднейшых філаматаў Адам Міцкевіч памёр 26 лістапада 1855 г., а роўна праз 75 гадоў 26 лістапада 1930 года нарадзіўся Ўладзімір Караткевіч, які заўсёды лічыў, што яму дасталося нешта ад яго вялікага папярэдніка, і што душа Адама Міцкевіча апякуецц над ім.

Падчас імпрэзы прагучалі песні філаматаў, у тым ліку на словы Адама Міцкевіча, а таксама песні на словы Ўладзіміра Караткевіча..

Пасля імпрэзы яе ўдзельнікі наведалі помнік Адаму Міцкевічу ў Лідзе па вуліцы Адама Міцкевіча. Нажаль, помніка Ўладзіміру Караткевічу ў Лідзе яшчэ няма.

***Наш кар.***

# Новая кніга Дануты Янаўны

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася творчая сустрэча з гарадзенскай паэткай Данутай Янаўнай Бічэль з нагоды з'яўлення яе кнігі вершаў "Іду сцяжынаю да Бога". У зборнік, выдадзены да 75 - годдзя вядомай беларускай літаратаркі і перакладчыцы, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, увайшлі творы, напісаныя ў апошнія гады. Гэта вершы - малітвы, як іх акрэсліае сама паэтка, прасякнутыя шчырасцю, любоўю да роднага Краю і надзеяй на яго духоўнае адраджэнне... Наклад літаратурна-мастацкага выдання 300 асобнікаў. Яго выдала славутае выдавецтва "Про Хрысто".

На мерапрыемстве прысутнічала творчая інтэлігенцыя сталіцы. Цёплыя словы ў гонар Дануты Янаўны сказалі Хрысціна Лялько, Галіна Дзягілева, Генадзь Бураўкін, Міхась Скобла, Анатоль Вярцінскі, Язэп Янушкевіч, Сяргей Панізьнік. Спявала Таццяна Беланогая. Чытаў вершы Эдуард Акулін.

Трэба адзначыць, што вельмі хораша спявалі хлопцы і дзяўчаты з квартэта камернага хору "Глёрыя"...

Каля 20 хвілін працягвалася аўтограф-сесія вядомай паэткі. Можна было набыць кнігу. Яна адрасавана ўсім аматарам беларускай паэзіі.

У зале прысутнічала шмат вядомых асоб, хто не паспеў выказацца. Гэта Алесь Шатэрнік, Арсен Ліс, Уладзімір Содаль, Анатоль Бутэвіч і іншыя. Літаратарка атрымала шмат кветак і падарункаў. Было вельмі цікава. Панавала творчая атмасфера.

***Аляксей Шалахоўскі.***





# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў студзені

Адаська Віктар
Акуліч Аляксандр
Алесіна Ганна Міхайлаўна
Аліева Марыя Рыгораўна
Аляхновіч Мікалай Мікал.
Андрасовіч Наталля Валянц.
Антаноўскі Мікалай
Антанюк Ян
Анціпенка Лявон Міхайлавіч
Апейка Марыя Фёдараўна
Аскірка Валянцін Фёдаравіч
Ашкінадзэ Аляксандра Ал.
Ашуева Вера Яўгенаўна
Баброў Яўген Ігаравіч
Багданкевіч Святлана Мікал.
Багданчык Таццяна
Бакіноўскі Валянцін
Баркун Любоў Сяргееўна
Барткевіч Таццяна Фёдараўна
Барысаў Лявон Аляксеевіч
Барысевіч Аляксандр Вітол.
Батуеў Павел
Батура Вольга Іванаўна
Бахір Алена
Белы Павел Аляксандравіч
Бечка Антон Вацлававіч
Благачынны Фларыян Мікал.
Болбас Данута Вацлаваўна
Булыга Міхаіл
Бурбоўская Алена Уладзімір.
Бяліцкая Ганна Сцяпанаўна
Бяляева Кацярына Уладзімір.
Варанцоў Міхаіл Ананіевіч
Варатынская Галіна Аляксан.
Варонька Ніна Адэльфонс.
Васілевіч Алена Канстанцін.
Віданава Ірына Аляксееўна
Вінаградаў Віталь
Водзіч Таццяна
Вярбоўская Надзея
Гайдук Марыя
Галавач Яўген
Гапеева Вальжына Міхайл.
Гаравы Марат
Гарадко Галіна Станіславаўна
Гарановіч Віталь Рыгоравіч
Гарбачова Тамара Валер'еўна
Гардзіенка Ала Андрэеўна
Гасціловіч Уладзімір Васіл.
Гацак Максім Віктаравіч
Гедроіць Аляксандр Генадз.
Герасёва Таццяна Андрэеўна
Гільвей Валянціна
Грышкевіч Лявон Іосіфавіч
Грэбень Раіса
Гурская Людміла
Дзям'янаў Аляксандр Улазім.
Доўнар Павел Віктаравіч
Драздоў Уладзімір
Дранжкевіч Марыя
Дробаў Іван Міхайлавіч
Дубовік Ганна Уладзіміраўна
Дуброўская Наталля
Дычок Рэгіна Янаўна
Езавіт Т. В.
Елісееў Андрэй
Ефімовіч Аляксандр Вячасл.
Жарнасек Ірэна Францаўна
Жылінская Святлана
Жынь Канстанцін Уладзімір.
Заіка Зоя Міхайлаўна
Закрэўская Ніна
Зарубава Ганна Уладзімір.
Захарава Кацярына Алякс.
Збадоўскі Эдуард Іосіфавіч
Землякова Ала
Зімніцкая Ганна Ігараўна
Зімніцкі Леанід
Зубар Марына Уладзіміраўна
Івановіч Кацярына Анатол.
Ігнатчык Алег Уладзіміравіч
Іпатава Вольга Міхайлаўна
Кабышаў Зміцер
Казак Валянціна
Казак Міхась Мікалаевіч
Казак Сяргей Іванавіч
Казлоўскі Алег Феліксавіч
Калеснiковіч Максім
Каліноўская Марыя
Калядка Іна
Канопкіна Таццяна Станіслав.
Канус Марыя Іванаўна
Капарыха Мікола
Капуста Алена Міхайлаўна
Каратчэня Іван Адамавіч
Карповіч Уладзімір Леанід.
Картузава Яўгенія Юр'еўна
Карэнька Людміла Мікал.
Каспяровіч Ілля Алегавіч
Кашчэева Людміла
Каяла Уладзімір Іванавіч
Кізееў Ігар
Кісель Таццяна Аляксандр.
Клімашонак Віталь Алегавіч
Кліменценка Святлана Ульян.
Клімуць Яраслаў Іванавіч
Клямята Уладзімір Антонавіч
Кніга Галіна
Кожан Кліменці Арсенавіч
Козел Алена Аляксандраўна
Коласава Алена Аляксандр.
Корнеў Павел Іванавіч
Котаў Павел Аляксандравіч
Красоўскі Лявон Мікалаевіч
Красоцкі Ян
Краўчук Ала
Крол Вера Сяргееўна
Крывальцэвіч Мікола
Крыж Сяргей Аляксандравіч
Кузьмянкоў Генадзь Адам.
Кулік Анатоль
Курчанава Ларыса Вітал.
Куцепаленка Яўген
Лабанава Наталля Андрэеўна
Лабоха Канстанцін Валянцін.
Лазарэнкаў Валянцін
Лазюк Аляксандр
Лакішык Аляксей Рыгоравіч
Ларычаў Алег Васільевіч
Лашук Алег Пятровіч
Лісоўскі Дзмітры
Ліцкевіч Наталля
Ліцьвінчак Аляксей
Ліцьвінчук Анатоль
Лобан Павел Міхайлавіч
Лобец Алесь Паўлавіч
Лукашэнка Антон Уладзімір.
Луцэвіч Аляксандр
Лысенак Р.В.
Лысы Аляксандр Уладзімір.
Люліна Алена Канстанцінаўна
Магалінскі Ігар Уладзімір.
Магучава Таццяна Васіл.
Магучая Галіна
Малышава Людміла Яўген.
Малышка Іпаліт Міхайлавіч
Маляўка Марыя
Маркоўская Кацярына Мік.
Мароз Аксана Пятроўна
Масакоўскі Уладзімір Генадз.
Мацюшава Яна Аляксандр.
Мельнікаў Юры Леанідавіч
Мільнова Таццяна Мікал.
Мінько Мірына
Міхалева Варвара
Міхалькевіч Людміла Мікал.
Міханчык Нэлі
Мішкель Станіслаў
Мішкоў Яўген
Музычэнка Андрэй Мікал.
Мускі Барыс Георгіевіч
Муша Уладзімір Мікалаевіч
Мялешка Віктар Аляксандр.
Навагродскі Мечыслаў Ал.
Навахрост Кацярына
Нагорны Юры Аляксандр.
Нікалаеў Аляксандр Яўгенав.
Нікіцін Аляксандр
Новік Міхась Фаміч
Норка Алеся
Падабед Аляксандр
Палубінская З. Г.
Панізовіч Марат Яфімавіч
Паплеўка Юлія Юр'еўна
Патаранскі Сяргей Сяргеевіч
Паўлючук Антон
Пісарэнка Аляксандр Васіл.
Пляхневіч Тамара
Пракурат Яўген Андрэевіч
Пратасеня Юры Аляксандр.
Прымака Васіль Дзмітрыевіч
Прыхач Віталь Іванавіч
Прышчыц Валянціна Сцяпан.
Пярвушына Галіна Сярг.
Пясецкі Генадзь Леанідавіч
Пячкоўскі Франц Уладзімір.
Рабянок Дзяніс
Радзюк Міхаіл Міхайлавіч
Раковіч Аксана Уладзіміраўна
Рамановіч Вераніка
Роўкач Андрэй
Рудак Таццяна
Рудзіч Алена
Руцкая Алена Вітальеўна
Рымша Сяргей
Савуліч Мікалай
Самуйлік Яўген Рыгоравіч
Свістунова Алеся Аляксанд.
Семянчук Альбіна
Сівіцкі Уладзімір Уладзімір.
Сімбіраў Ігар
Сіповіч Святаслаў Іосіфавіч
Скрыпко М.А.
Снітко Вера
Снітко Тамара
Стагначоў Уладзімір
Судак Вікторыя
Суша Тамара Мікалаеўна
Сушчэня Анатоль
Сытая Таццяна
Сяргейчык Аляксей Мікал.
Тамашоў Мікалай
Тамашэвіч Тамаш Іосіфавіч
Украінка Сяргей Сяргеевіч
Фёдарава Вольга Дзмітр.
Фёдарава Лілія
Федаровіч Святлана Міхайл.
Федзюшка Надзея
Фядотаў Феакціст Фёдаравіч
Хадановіч Маргарыта Міх.
Хадоркін Мікола Фёдаравіч
Хамец Міхась Дзмітрыевіч
Хмараў Сяргей Рыгоравіч
Царкова Ніна Канстанцінаўна
Цітоў Ігар Віктаравіч
Цыбульская Людміла Віктар.
Цяцёркін Мікалай Яўгенавіч
Чайка Сяргей
Чаркасава Любоў Восіпаўна
Чарных Наталля
Чарнякова Вольга
Чачотка Анатоль Ілліч
Чылек Міхаіл Паўлавіч
Чыржа Алесь
Шаклач Таццяна
Шафарэнка Мікалай Мікал.
Швец Алена
Шыбека Аляксандр Сяргеев.
Шыдлоўская Ніна Анатол.
Шыман Дзмітры Валянцін.
Шыманец Алена
Шынкевіч Уладзімір
Юранкова Марыя Віктараўна
Якалцэвіч Марыя Антонаўна
Якушава Аліна Мікалаеўна
Янушкевіч Леанід
Яўсеенка Жана
Яцкевіч Уладзімір Антонавіч

# Магілёўскія школьнікі сустрэліся з творамі Купалы і Коласа

13 снежня ў магілёўскую Цэнтральную гарадскую бібліятэку на сустрэчу з творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа прыйшлі вучні школы № 33.



Яны азнаёміліся з прэзентацыяй, якую прадэманстравалі бібліятэкары Ірына Цінякова, Святлана Міхальчук і Марына Барысава.

Артыстка народнага тэатра Палаца культуры вобласці Аліна Кісялёва выканала некалькі вершаў Купалы.

Старшыня Магілёўскага аддзялення СБП Мікола Яцкоў расказаў пра адметнасці паэзіі двух вялікіх беларускіх песняроў. У выкананні Міколы і Алы Яцковых прагучала некалькі песень на вершы Купалы і Коласа.

***Ул. інф. магілёўскага аддзялення СБП.***

# Юбілею Івана Грыгаровіча прысвячаецца

У Магілёўскім мастацкім музеі імя Паўла Масленікава 13 снежня прайшоў вечар памяці гісторыка і святара Івана Грыгаровіча, арганізаваны гарадскім аддзяленнем "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".



Вечарыну адкрылі вершам Максіма Багдановіча "Летапісец", напісаным 100 год таму, у 1912 годзе, і прысвечаным гісторыі Магілёва.

***Летапісец***

*Душой стаміўшыся*
*ў жыццёвых цяжкіх бурах,*
*Свой век канчаю я*
*ў манастырскіх мурах*
*І пільна летапіс*
*другі ўжо год пішу:*
*Старанна літары*
*малыя выводжу*
*І спісваю усё ад слова і да слова*
*З даўнейшых граматак*
*пра долю Магілёва.*
*І добрыя яго, і кепскія дзяла*
*Апавядаю тут.*



Адным з такіх летапісцаў Магілёўшчыны і ўсяго беларускага народа з'яўляецца Іван Грыгаровіч.

Пра вядомага археолага, гісторыка, археаграфіі, святара, збіральніка рукапісаў па гісторыі Беларусі ўдзельнікам вечара распавёў настаяцель храма Пятра і Паўла ў вёсцы Лясная айцец Георгій Сакалоў. Паводле яго слоў, значэнне прац Івана Грыгаровіча найперш у тым, што ён жыў у складаны час пасля далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі і яго зацікаўленасць у гісторыі роднай мясцовасці ўспрымалася як сепаратызм. "Айцу Івану ў гэтым плане было цяжкавата. Але былі пэўныя і светлыя бакі яго дзейнасці, бо ў яго былі высокапастаўленыя апекуны, якія разумелі важнасць яго працы", - сказаў святар. Адным з такіх апекуноў быў граф Мікалай Румянцаў, які дапамагаў Грыгаровічу ў яго навуковых пошуках.



Ураджэнец Прапойска (цяпер Слаўгарад) Іван Грыгаровіч, які скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю, Санкт-Пецярбургскую духоўную акадэмію, больш жыў і працаваў у Гомелі. Ён збіраў і апрацоўваў тэксты рукі святара Георгія Каніскага, выдаў першы беларускі археаграфічны зборнік крыніц - "Беларускі архіў старажытных грамат".

- І калі расійская археаграфія пачалася ў часы Кацярыны ІІ, то беларускай да Івана Грыгаровіча наогул не было. Ён яе бацька, - сцвярджае настаяцель храма ў Ляснай.

Таксама трэба адзначыць, што Магілёўскім абласным краязнаўчым музеем імя Е. Раманава была падрыхтавана кніжная выстава твораў Грыгаровіча, сярод якіх унікальнае выданне - першая праца І. Грыгаровіча: дысертацыя пра наўгародскіх пасаднікаў, выдадзеная ў 1821 г.

Напрыканцы вечарыны магілёўскі паэт і кампазітар Мікола Яцкоў падараваў а. Георгію гістарычныя матэрыялы па в. Лясная. Пасля завяршэння імпрэзы магілёўцы яшчэ доўга не адпускалі шаноўнага госця дахаты: фатаграфавалі, размаўлялі.

P.S. 9 снежня ў вёсцы Лясная Слаўгарадскага раёна адбыліся краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя 100-годдзю пабудовы ў Ляснай мемарыяльнай Свята-Петрапаўлаўскай капліцы - храма-помніка ў гонар перамогі рускіх войск над шведамі ў час Паўночнай вайны 1700-1721 гг.

У чытаннях прынялі ўдзел каля 30 чалавек. Вёў вечарыну настаяцель прыхода храма-помніка ў Ляснай, краязнавец, філолаг, протаіярэй Георгій Сакалоў. Вечарына праводзілася на беларускай мове. Невялікая дэлегацыя Магілёўскага ТБМ таксама далучылася да ўдзелу ў чытаннях, паколькі магілёўцы даўно сябруюць з айцом Георгіем.

*Падрыхтаваў*
***Юрась Каласоўскі,***
*Магілёў.*



№ 52 (1099) 26 СНЕЖНЯ 2012 г. Наша Слова

# ЗБІРАЛЬНІК НАРОДНАЙ МУДРАСЦІ




Неяк зусім незаўважна ад аматараў беларускай кнігі і Беларушчыны наогул выйшла ў 2012 годзе кніга **"Васіль Ліцьвінка. Крыніца народнай мудрасці. З літаратурнай спадчыны"**. Кніга выйшла ў менскім выдавецтве "Беларуская навука" пад шапкай "Нацыянальная Акадэмія навук Бедарусі. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы". Укладальнік Н. М. Ліцьвінка. Рэцэнзенты: доктар філалагічных навук А.С. Ліс, кандыдат філалагічных навук, дацэнт М.Н. Антропаў.

Выданне ўключае значную колькасць навуковых і навукова-папулярных прац вядомага беларускага фалькларыста і папулярызатара айчыннай этнакультуры, шматгадовага прэзідэнта Беларускага саюза фалькларыстаў В. Д. Ліцьвінкі. У зборнік уключаны таксама матэрыялы, прысвечаныя яго жыццю і шматбаковай фалькларыстычнай дзейнасці.

Разлічана на даследчыкаў аўтэнтычнай народнай творчасці, выкладчыкаў, студэнтаў, усіх, хто цікавіцца фальклорам як асновай традыцыйнай культуры.

Традыцыйная культура, фальклор як мастацкая аснова яе існуюць у шматлікіх рэгіянальных разнавіднасцях, што і прадвызначае іх поліфанічнасць, самабытнасць, з'яўляецца дыферэнцыруючым фактарам ва ўзаемадзеянні з іншымі формамі культуры. Геаграфічнае і геапалітычнае размяшчэнне Падняпроўя як беларуска-рускага памежжа на стыку сучасных усходнеславянскіх культур і часткі праславянскай радзімы не толькі сфармавала тут непаўторную мастацкую традыцыю, але і паўплывала на ментальнасць і паўсядзённы побыт яе жыхароў. Гэта калыска славян пачатку І тыс. н. э. Ад IX ст. усходнія землі крывічоў і радзімічаў сталі транзітнымі тэрыторыямі на шляху "з варагаў у грэкі".

На пачатку 60-х гадоў XX ст. на філалагічных факультэтах Белдзяржуніверсітэта і ў педінстытутах былі ўведзены двухтыднёвыя вучэбныя і дыялекталагічныя палявыя практыкі, у межах якіх рэгулярна і сістэматычна запісваліся матэрыялы фальклору і традыцыйнай культуры.

Для каардынацыі ўсёй гэтай працы агульнанацыянальнага значэння ў 1981 г. Міністэрствам адукацыі Беларусі на філалагічным факультэце БДУ была створана Навуковадаследчая лабараторыя беларускага фальклору і дыялекталогіі, чатыры архівы якой цяпер, дзякуючы плённай шматгадовай дзейнасці В.Д. Ліцьвінкі, налічваюць:

рэгіянальны (усіх 118 раёнаў Беларусі) - больш за 4 млн тэкставых запісаў;

жанравы - усе сістэматызаваныя матэрыялы рэгіянальнага архіва;

аўдыёархіў - каля 500 тыс. запісаў мелодый і музыкі на розных, пераважна састарэлых, тыпах носьбітаў;

відэаархіў - 233 відэафільмы аб усіх самабытных з'явах абрадава-святочнай культуры ў вялікай колькасці рэгіянальных варыянтаў (на жаль, на тэхнічна састарэлых відэакасетах).

На працягу больш як 20-гадовага існавання ў НДЛ беларускага фальклору БДУ паспяхова выкананы навуковадаследчыя работы "Фальклор Беларускага Палесся", "Этналінгвістычнае даследаванне Беларускага Палесся", "Рэгіянальная спецыфіка беларускага фальклору і яго месца ў адукацыі і культуры", "Фальклор як сродак вучэбна-выхаваўчага працэсу", "Фальклор запаведных і памежных з Расіяй, Украінай, Польшчай і Літвой рэгіёнаў", "Інтэрпрэтацыя і выкарыстанне фальклору ў вучэбна-выхаваўчым працэсе ВНУ".

У выніку пры НДЛ паўсталі дзве навуковыя школы - рэгіянальна-арэальных даследаванняў і інтэрпрэтацыі фальклору.

НДЛ беларускага фальклору БДУ з'яўляецца калектыўным сябрам Міжнароднай арганізацыі па фальклоры ЮНЕСКА (ІОР) і актыўным сябрам яе камісіі рэгіянальнага даследавання фальклору. Архівы НДЛ улічваюцца ў працы камісіі, уключаны ў даведнік, які рыхтуецца да друку ў ЗША.

НДЛ беларускага фальклору актыўна ўдзельнічала ў правядзенні Міжнароднага сімпозіюма ЮНЕСКА на Беларусі ў 2002 г. "Разнастайнасць моў і культур ва ўмовах глабалізацыі", да якога НДЛ была перакладзена і выдадзена "Сусветная дэкларацыя культурнай разнастайнасці ЮНЕСКА" ад 2 лістапада 2002 года, якая адкрывае перспектывы працы НДЛ з дапамогай міжнароднай супольнасці. У лістападзе 2002 г. навукова-даследчая лабараторыя правяла Міжнародную навуковую канферэнцыю "Жыццесцвярджальнасць культуры славянскай цывілізацыі", а ў красавіку Першую этналінгвістычную міжнародную канферэнцыю, прысвечаную 80-годдзю расійскага акадэміка Мікіты Талстога, які шмат гадоў плённа супрацоўнічаў з НДЛ і стварыў Палескі архіў у Інстытуце славістыкі РАН. Цесная сувязь НДЛ з музыказнаўцамі, інструменталістамі, харэографамі, кіраўнікамі большасці лепшых фальклорных калектываў Беларусі, метадыстамі па фальклору аддзелаў адукацыі і культуры і многімі іншымі практыкамі выкарыстання фальклору ператварылі яе ў навуковы цэнтр інтэрпрэтацыі фальклору, якой пасля Шырмы і Цітовіча ніхто на Беларусі не займаўся. З гэтай мэтай створаны штогадовыя Шырмаўскія навуковыя чытанні і навуковамастацкая студыя "Узроўні інтэрпрэтацыі фальклору".

У розныя гады НДЛ былі арганізаваны тры вучэбна-метадычныя фалькларыстычныя школы для кіраўнікоў дзіцячых, моладзевых і старэйшых вясковых фальклорных калектываў, якія стварылі лепшыя самабытныя калектывы ў розных рэгіёнах Беларусі і падтрымліваюць сталыя навукова-творчыя сувязі са школай. У наш час НДЛ каардынуе ўсю шматаблічную па формах, метадах, рэгіянальнай і мастацкай спецыфіцы, у тым ліку і сучасную мадэрновую ў рок-фолькколектывах інтэрпрэтацыю фальклору на Беларусі, кансультуе арганізатараў шматлікіх святаў, дажынак, фальклорных фестываляў, конкурсаў, радыё- і тэлеперадач і многія іншыя формы выкарыстання фальклору ў сучаснай культуры. Кафедральная фальклорная архівы перараслі ў багатыя рэгіянальны і жанравы (у кожным каля 4 млн тэкставых запісаў), аўдыё- (больш як паўмільёна) і відэа- (больш як 200 відэафільмаў аб усіх найбольш самабытных з'явах абрадава-святочнай культуры) архівы НДЛ.

У розныя гады фальклорныя запісы склалі выдадзеныя Нілам Гілевічам фундаментальныя зборнікі "Песні сямі вёсак", "Песні народных свят і абрадаў", "Казкі і апавяданні беларусаў", "Лірычныя песні", "Лірыка беларускага вяселля", "Замовы". Унікальныя запісы на Палессі як адным з асноўных рэгіёнаў праславянскай радзімы, па словах акадэміка Мікіты Талстога *"гэтым своеасаблівым запаведніку стараславянскай культуры"*, склалі заснаваную Верай Захаравай серыю "Беларускі фальклор у сучасных запісах", у якой выйшла 5 зборнікаў традыцыйнага фальклору Берасцейскай, Гомельскай і Менскай абласцей і асобна "Палескае вяселле".

Кіраўнік НДЛ Васіль Ліцьвінка (1981-2005 гг.) у абароненай дысертацыі "Р.Р. Шырма - фалькларыст" і двойчы выдадзеным зборніку "Песня - душа народа" раскрыў асноўныя метадалагічныя прынцыпы выкарыстання фальклору ў сучаснай адукацыі і культуры, а фальклорны калектыў БДУ "Тутэйшая шляхта" пад яго кіраўніцтвам паспяхова выканаў па праграму 2000-2002 гг. навукова-даследчую працу "Інтэрпрэтацыя і выкарыстанне фальклору ў вучэбна-выхаваўчым працэсе ВНУ".

В. Д. Ліцьвінка ў межах сваёй лабараторыі засёды працаваў у найбольш перспектыўных кірунках сучаснай фалькларыстыкі, такіх як:

арэальнае даследаванне фальклору, які існуе ў аўтэнтычным выглядзе толькі ў рэгіянальнай мастацкай шматвобразнасці і бясконцай варыянтнасці і толькі ў гэтым сэнсе з'яўляецца самацэнным, а таму можа быць значна фінансаваны з мясцовых бюджэтаў;

адукацыйна-культуралагічная інтэрпрэтацыя фальклору як асновы этнічнай і традыцыйнай культуры народа, яго свят і абрадаў, эстэтыкі побыту, менталітэту, высокай маралі, прыроднай філасофіі, асновы літаратуры і прафесійнага мастацтва, вызначэння самабытнасці яго культуры сярод славянскіх і індаеўрапейскіх народаў;

даследаванне ўзроўняў інтэрпрэтацыі фальклору ў адукацыі і культуры;

аналіз форм і метадаў выкарыстання фальклору ў разнастайных узроставых (дзіцячых, моладзевых і студэнцкіх, старэйшых), вясковых і гарадскіх, рознанацыянальных і некаторых іншых фальклорных калектывах;

стварэнне методыкі перанясення на сцэну песеннага, інструментальнага і харэаграфічнага фальклору;

выкарыстанне фальклору пры правядзенні свят і абрадаў, рэгіянальных і агульнанацыянальных фестываляў і знамянальных падзей;

вывучэнне знешняга і ўнутранага фальклярызму ў творах літаратуры і прафесійным мастацтве;

інтэрпрэтацыя фальклору ў опернай, тэатральнай і харавой творчасці; даследаванне дзейнасці рок-фолькгуртоў;

аналіз форм і мастацкіх узроўняў інтэрпрэтацыі фальклору ў друку, перыядычных выданнях, на радыё і тэлебачанні.

Яго дзейнасць як кіраўніка НДЛ беларускага фальклору прадоўжыла вяртанне запісаных матэрыялаў у навукова-мастацкую практыку выданнем 18 фальклорных зборнікаў і штогадовай публікацыяй каля 50 друкаваных аркушаў фальклорных матэрыялаў, з 1994 года - "Каляндара свят і абрадаў беларусаў", больш як сотні навуковых артыкулаў, матэрыялаў і тэзісаў, метадычных матэрыялаў да каляндарных і абрадавых свят. Ліцьвінка ўдзельнічаў у папулярызацыі фальклору ў перыядычным друку, радыёклубе "Фальклор", фальклорных праграмах тэлебачання. З 1987 па 2002 год ён - вядовец адной з самых папулярных і даўгавечных тэлепраграм "Запрашаем на вячоркі".

У гэтым выданні прадстаўлены найбольш цікавыя творы В. Д. Ліцьвінкі як дасканалага знаўцы, інтэрпрэтатара і папулярызатара беларускага фальклору.

Адзіна магчымая форма існавання фальклору - вусная, услед за аўдыё набыла ў наш час бясцэнную форму відэафіксацыі, што пачалі ў апошні час рабіць нават студэнты. Гэтая праца плённа вялася пад кіраўніцтвам В. Д. Ліцьвінкі з 1987 года. Цяперашняя першасная задача, як ён хацеў у апошні час, але не паспеў зрабіць, - стварыць Рэспубліканскі фальклорна-камп'ютарны цэнтр і перавесці недаўгавечныя аўдыё- і відэазапісы на электронныя носьбіты, каб перадаць нашчадкам усё прыгожае, што стварылі нашы продкі: Вялікдзень і Дзяды, Зялёныя святкі і Купалле, Дажынкі, Каляды, Шчодрык, Радзіны, Вяселле.

У выданні паўторана "Спевы пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года", выдадзены раней асобнай кніжкай. У дадатках пададзена паэма М. Лермантава "Ліцьвінка" ў перакладзе Станіслава Судніка.

Кніга ў 464 старонкі, фарматам крыху меншым за А-4 стала выдатным помнікам шчыраму, таленавічаму і нястомнаму збіральніку, захавальніку ды папулярызатару беларускага фальклору Васілю Ліцьвінку з такім гаваркім прозвішчам, якое само вяжа сучасных беларусаў з колішнімі ліцьвінамі

*Яраслаў Грынкевіч.*

## *"Душа лістападу"*




Такую назву мае 9-ая кніга вядомай паэтэсы, перакладчыцы і літаратуразнаўцы Ірыны Багдановіч, якая нарадзілася ў 1956 годзе ў горадзе Лідзе. Скончыла гістарычнафілалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978 г.) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (1983 г.). З 1996 года - дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры філфака БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1985 г.). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1989 г.).

Прэзентацыя кнігі адбылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. На мерапрыемстве было сказана шмат цёплых слоў пра спадарыню Ірыну. Выступалі Міхась Скобла, Васіль Жуковіч, Анатоль Верабей. Гучала музыка ў выкананні квартэта камернага хору "Глерыя". Ірына Эрнэстаўна чытала любімыя вершы: "Ліхтарык", "Прастуда", "Вераб'іная кавярня" і іншыя.

У новай кнізе вершаў Ірыны Багдановіч - паэтычны роздум аўтара аб сутнасці творчасці і чалавечага быцця ў няпростым і зменлівым часе. Аб тых вечных духоўных арыенцірах, якія задаюць высокі нябесны вектар зямному чалавечаму існаванню.

Вядучыя матывы кнігі дапаўняе раздзел перакладаў "Старапольскае рэха Беларусі", які складаюць творы знакамітых аўтараў канца XVIII - XIX стагоддзяў.

Гэта - Францішак Багамолец, Ян Чачот, Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Габрыэля Пузыня, Зоф'я Манькоўская, якія былі знакавымі ў свой час людзьмі.

Рэдактары літаратурна-мастацкага выдання - Алесь Пашкевіч і Барыс Пятровіч. Кніга з'явілася ў выдавецтве "Кнігазбор". Яе наклад 300 асобнікаў.

На мерапрыемстве прысутнічала творчая інтэлігенцыя г. Менска, а таксама беларуская моладзь. Не ўстрымалася і ўзяла слова на вечарыне паэтка Святлана Багданкевіч, якая ў жніўні выдала цудоўную кнігу вершаў "Нарадвесні", што таксама змяшчае добрыя пераклады з польскай паэзіі.

Было цікава.

*Аляксей Шалахоўскі.*

# БЕЛАРУС - 2012

*У Нью-Ёрку ў выдавецтве “Беларус” пабачыў свет чарговы нумар Літаратурнага альманаха беларускіх пісьменнікаў замежжа “Беларус” за 2012 год.*

*У нумары размясцілі свае творы: АРЦЁМАЎ Аляксей (вершы), БАРАВЫ Лявон (вершы), ВАРАБЕЙ Ірына (пераклады), ВІТУШКА Сяргей (п'есы), ВОРАНАЎ Віталь (апавяданні), ДАВЫДЗЕНКА Зміцер (пераклад і вершы), ЗАЙКА Віталь (“У горадзе, што ніколі не спіць”, апавяданне, КАВАЛЕЎСКІ Віктар (“А зараз гляньце направа”, нататкі), КАРАЙЧЭНЦЭВА Людміла (нарысы), ЛАПАТКА Якуб (“Мой кут лясны”, успаміны), ЛІЯКУМОВІЧ Цімох (“Бяроза і магнолія”, апавяданне), МАЎЧУН Анатоль (“Чалавек і чалавечнасць”, роздум), МІНКІН Алег (вершы), МУРЗЁНАК Пётар П. (“Сказ пра Сільвестра”, паэма), МУРЗЁНАК Пётар С. (“Беларуская кляса ў Атаве”, успаміны), РЫЖЫ Эмігідыюш (“Верына малітва”, апавяданне), САПАНКО Тацціяна (вершы), СНАРСКАЯ Іна (“Зіма і птушкі”, вершы), СОКАЛАЎ-ВОЮШ Сяржук (“1654”, адрывак з аповесці), ТАРАНОВІЧ Аляксандар (“Тэатар "Steel orgasm", успаміны), ШАМЕЦЬКА Юрась (вершы), ШАТЫЛОВІЧ Дзмітры (“Уцёкі”, успаміны), ШЧУР Макс (апавяданні, вершы), ЯКІМОВІЧ Валянціна (успаміны).*

*Заснавальнік і выдавец альманаха **Марат Клакоцкі** самаахвярна і ўпарта працягвае працу па развіцці беларускай літаратуры па-за межамі Беларусі.*

*Фактычна “Беларус” - добрае дапаўненне ў шэраг беларускіх літаратурных часопісаў і альманахаў усіх кірункаў і прыналежнасцяў. Пры любых заўвагах да твораў, змешчаных у “Беларусе”, яны ўзбагачаюць беларускую літаратуру і будуць узбагачаць у будучыні.*

***Сяржук***
***СОКАЛАЎ-ВОЮШ***

## 1654

**ЧАСТКА 2**
**Сутычка**

*(надрукавана ў альманасе “Беларус” за 2012 г.)*

Глыбокай ноччу з Капыцецкай брамы смаленскага замка выехала чацвёрка вершнікаў.

- Куды гэта яны ў такую цемру? - запытаўся сівавусы ахоўнік.

- Хто ж іх ведае, - адказаў ягоны маладзейшы напарнік, - добра было б, каб шукаць падмогі.

- Добра. Але дасць Бог, і так выстаім.

- Так не выстаім. Маскаль бярэ колькасцю. Кажуць, гэтым разам ягонаму войску на дарогах канца не відаць.

- Брэшуць.

- Можа, і брэшуць, - пагадзіўся малады і глуха трэснуў засаўкай.

Між тым, чацвёрка была ўжо ў прымесці. А неўзабаве коні вынеслі рыцараў на бераг Дняпра. Нейкі час ехалі моўчкі. Высокія лугавыя травы пад лёгкім ветрыкам нагадвалі нарачанскія хвалі. З-за хмараў паказалася поўня.

- Там, справа, дарога. Выязджаць на яе не варта, - парушыў маўчанне Веста, - будзем трымацца воддаль. Калі без прыгодаў - раніцай будзем у Дарагабужы.

- А калі з прыгодамі? - зацікавіўся Якуб.

- Залежна з якімі. Неўзабаве ўз’едзем на гарушку. Там спынімся і разгледзімся. Адтуль добраму воку відаць, а добраму вуху чуваць далёка. Кажуць некалі на тым месцы былі тры вялікая гары. У ноч на Івана Купалу на іх нячыстая сіла збіралася. А жыла ў суседняй вёсцы прыгожая ў добрым целе дзяўчына Тая. Сам Д'ябал-гіруд прылятаў на яе здаля глянуць.

І жыў у той самай вёсцы чараўнік - Чорны Ступак. Адна ягоная нага за сабой чорны след пакідала. Тутэйшая шляхта чараўніка любіла, бо ён ніколі нікому зла не рабіў. Лекаваў людзей, жывёлу, ведаў, як у галодны год здабыць ежы, узімку аднэй лучынкай хату нагрэць, улетку адвярнуць засуху, дажджу паклікаць. Замовы розныя таксама ўмеў: каму на латы ці шаблю, іншаму на касу ці вуду. Казалі таксама, што ёсць у чараўніка любамудар - камень, які з жалеза золата робіць, таму ніхто ніколі не бачыў Чорнага Ступака карчом на палетках, а грошы ў яго заўсёды былі.

І сустрэлася Тая з Чорным Ступаком. І пайшлі яны разам у Купальскую ноч па Папараць-Кветку і знайшлі яе. Не спадабалася гэта Гіруду. Пачалі ягоныя служкі вакольную шляхту баламуціць, маўляў, Тая - вядзьмарка, яна, маўляў, малако ў кароў крадзе, у жыце заломы робіць. Знайшліся такія, што нават бачылі ейныя пакасьці. Шмат хто не верыў, шмат хто Чорнага Ступака пакрыўдзіць баяўся, іншыя ж звязвацца не хацелі. Угневаўся Гіруд на ўсё Вялікае Княства. Самому Вялікаму Князю пачаў у вушы шаптаць, а той падазрона пазіраць на ўсіх. Ну і паляцелі шляхоцкія галованькі. Ледзь што не так - хрась! і няма чалавека. Перапала і іншым. Загарэліся вогнішчы інквізыцыі. А нечысць толькі ў ладкі пляскае.

Дайшла чарга і да Смаленска. Прыехалі князевы служкі ў замак. Пра Таю і Чорнага Ступака пытаюцца. А быў тады ў замку ваявода...

- Ціха! - гучным шэптам перапыніў Весту Цыпрук і ўстаў у страмёнах. Прыслухаўся, - здаецца як бы недзе гаварылі... Ды і коні вушамі стрыгуць...

- Я ж і кажу, - месца тут такое, - ціха прагаварыў Веста.

- Ды няма нікога, - апусціўся ў сядло Якуб, які таксама быў устаў і пачаў услухоўвацца.

- Давайце я наперад праеду. Калі што якое - пугачом крыкну. - Багуміл усё яшчэ перадумоўваў няўдачу ў дольках і хацеў як-небудзь апраўдацца. Хаця б перад самім сабой.

- Не, ты, калі што якое - скачы назад, - сказаў яму ўслед Цыпрук.

"І што магло здарыцца? Хаця б хлопец быў здаравяка, а то ледзь не здыхляк. Дазнаюцца дома - сораму не абярэшся... Мяне паклаў, то і іншых пакладзе, але ж іншыя не самыя моцныя. Ім саромецца няма чаго. Смяяцца будуць з дужэйшага. А іначай як з яго пасмяешся?.. І галоўнае, што перамога была так блізка. Не іначай ёсць нейкі сакрэт, але які?"

Занураны ў думкі, Пастронка нават не заўважыў, што конь, заміж на гару, пайшоў сподам у аб'езд і ўбіўся ў кустоўе. Ляснулі па шалому галінкі адна, другая. Недзе ў баку надрыўна і роспачна крахтанула жаба. Стоп! Гэта сігнал. Нехта нябачны заўважыў ягонае набліжэнне і папярэджвае сваіх. Спыняцца не было сэнсу, а вось зрабіць выгляд, што нічога не зразумеў - варта. Багуміл схіліў галаву на грудзі і памалу, напружваючы аброць, пачаў выязджаць на поле. Вольнай рукой няўглядна падрыхтаваўся выхапіць шаблю. Заўважыў, як не ў тахт ветрыку на ўскрайку затуманенай лажчынкі калыхнуліся травы. У той самы час над туманом паказаліся шышакі маскоўцаў. Багуміл прыбаднуў вастрагамі, азірнуўся ў лёце, заўважыў, што пераследчыкаў чалавек пяць і кінуўся да сваіх. Але дзе яны? Поўня заліла абшар. Конь імчаў наўскапыт. Недзе злева войкнуў пугач. Туды.

Маскоўцы ехалі не так шпарка, нібыта ведалі, што здабыча не ўцячэ. Спіной адчуў набліжэнне стралы. Ірвануў аброць. Конь падаўся ўбок, спатыкнуўся, але ўтрымаўся. Спераду, з кустоўя, выслізнулі яшчэ некалькі шышакоў, і страла, пушчаная ў Багуміла, звaліла аднаго з іх. Ізноў войкнуў пугач. Ды дзе ж яны?! Ага. З травы моўчкі ўсталі тры коннікі. Ударылі з самапалаў.

Багуміл пазнаў старую хітрасць - залегчы конна ў траве і раптоўна ўзнікнуць, збіваючы з панталыку чужынцаў. Ён таксама выхапіў самапал, але не паспеў стрэліць, як сябры былі ўжо побач.

- Ашчаджай стрэлы! - крыкнуў яму ў лёце Цыпрыян. - Там ёсць каменная баба. Адразу за ёй мы з табой сыходзім улева!

"Татарская пятля," - падумаў Багуміл. Пра гэты патаемны наварад, прыдуманы і ужываны тутэйшымі татарамі, ён толькі чуў, але сам ніколі не спрабаваў і не бачыў. Азірнуўся. Маскоўцаў было з добры дзясятак. Ля каменнай бабы падзяліліся. Цяпер за спіной засталося шасцёра. З-за пагорку нечакана ўзнік лес. Ля першых дрэваў хлопцы спыніліся і бабэхнулі. Бліжэйшы коннік пахіснуўся, але ўтрымаўся ў сядле, і конь, адчуўшы як аслабла аброць, паімчаў яго некуды ўбок.

Лягчэйшыя на ўзбраенне, Веста і Якуб прамінулі каменную бабу ды неўзабаве таксама ўзялі левы накірунак. На сваіх шпаркіх конях яны добра апярэджвалі пераследнікаў і досыць хутка пачулі стрэлы сяброў, а потым убачылі перад сабой тых, што гналіся за Цыпрыянам і Багумілам. Наляцелі віхурай. Секанулі ў дзве шаблі па спінах - на га-небную смерць. Ужо ўчатырох імгненна пасеклі астатніх. Толькі цяпер з-за пагорка пака- заліся апошнія шэсць маскоўцаў.

"Чатыры на шэсць - не так ужо і кепска, калі да шабляў маеш яшчэ тры стрэлы," - падумаў Якуб і трапна смальнуў у ватажок...

Сутыкнуліся. Раз’ехаліся. Сышліся ізноў. Моўчкі. Толькі звон шабляў ды хрып коней. Яшчэ стрэл. Гэта Цыпрыян, якога атакавалі двое, паклаў аднаго. Засталося чатыры на чатыры і адзін стрэл. Па такіх вялікіх стратах маскоўцы мусілі б кінуцца наўцёкі, але тыя біліся ўпарта. Асабліва вылучаўся сярод іх здаравяка-лыцар, які выбіў такі шаблю з рук Багуміла і траха не засек хлопца, але той у апошні момант выслізнуў з-пад удару і ўжыў апошні стрэл. Куля толькі чырканула па маскоўскаму шышаку, а кінуты нож і наагул адляцеў ад панцыра як звонкая перына. Калі б не Якуб, які паклаў свайго супарата ды кінуўся на дапамогу, хлопцы маглі б застацца ўтрох, хаця і цяпер іх было трое, бо бяззбройны сябра наўрад ці даваў перавагу. Дзякаваць Богу, Веста таксама здолеў абяззброіць маскоўца, якога цяпер, уздымаючы свайго каня на дыбы, атакаваў бяззбройны ж Багуміл.

Цыпрыян, пасекшы свайго супарата, спрытна ўсадзіў джала шаблі паміж латаў здаравякі. Той войкнуў, але з бою не выйшаў. Цяпер на полі біліся двое бяззбройных, а трое збройных атакавалі аднаго параненага, які пачынаў ужо здавацца неўміручым.

Конь Багуміла спатыкнуўся. Масковец удала штурхануў хлопца, і пакуль той падаў з сядла на вытаптаную траву, кінуўся наўцёкі.

- Веста, даганяй! - крыкнуў Якуб, і два коннікі адзін за адным зніклі за пагоркам.

Багуміл скінуў шалом, падняў з зямлі бярдыш забітага маскоўца, падбег да здаравякі, секануў па назе. Дзікі крык скалануў паветра. Кроў пырснула ў твар, але лыцар трапіўся не абы-які. Саслабелай рукой ён усё яшчэ працягваў адбіваць атакі, пакуль, нарэшце, знясілена не ўпаў у травы... Вярнуўся Веста.

- Як там? - запытаўся Якуб.

- Заснуў ля каменнай бабы.

Сябры падышлі да здаравякі. Той яшчэ дыхаў. Знялі шалом. Светлыя валасы маскоўца рассыпаліся па траве. Таўставатае, але некалі прывабнае аблічча цяпер было перакошанае болем.

- Хто ты? - схіліўся да яго Цыпрыян, і атрымаўшы заміж адказу крывавы плявок у твар, замахнуўся шабляй.

- Чакай, - узяў яго за руку Веста, - я яго ведаю.

- Ведзьма! - раптам залямантаваў масковец.

- Канчаецца, - уклаў шаблю ў піхвы Багуміл.

- Варта было б дабіць, - азваўся Якуб.

- Пакіньце. Калі выжыве, хай распавядзе іншым.

- Нешта ты занадта яго шкадуеш, - абурыўся да Весты Цыпрук, - ён што - брат табе ці сват?

- Магчыма, ён і табе крэўны. Бачыш - выглядае на свайго.

- Ды хто ён урэшце? - нервова запытаўся Багуміл.

- Міхайла Свіннін - крэўны суддзі сыскнога прыказу Пархвена Свінніна па мянушцы Смірной.

- Ну і што? - яшчэ больш усхадзіўся Пастронка.

- А нічога. Ягоныя продкі з нашых.

- Ага, - у вачох Якуба заскакаў агеньчык. Тады, калі выжыве, хай запомніць на ўсё жыццё і ўнукам перакажа. - І хлопец пачаў гаварыць тое, што ў часе сечы заўсёды ўзнікала ў галаве, адбіваючы тахты кожнага маху шабляй:

... няхай ведае гаспадар
ваш маленькі маскоўскі,
Што да няволі не прывык
ад веку люд літоўскі.
Святая воля тут у нас
у славе і ў пашане,
Няволю адхіляем,
бо гэта не да твару -
Пагрозаў баяцца,
нібы перад невадам рыбы,
Бо мы - вольныя шляхціцы
без аніякай хібы,
Якія чужога ярма
на сабе не носяць.
Вайны не патрабуем.
Міру не просім.

- Дык ты яшчэ і рыхмар? - зацікаўлена глянуў на Якуба Веста.

- Андрэй Рымша. "Дзесяцігадовая аповесць ваенных справаў князя Крыштапа Радзівіла".

- Нешта я не прыпамінаю, каб там быў маленькі гаспадар маскоўскі, - усміхнуўся Цыпрыян.

- Дык тое ж калі было, няйначай памізарнеў з таго часу.

Грамада зарагатала.

- А хто табе сказаў, што ён з нашых? - ніяк не мог супакоіцца Багуміл.

- Нашчадак менскага шляхціца Свінкі.

- Напэўна добрай свінкай быў, калі ў Свінніны выбіўся, - усміхнуўся Якуб.

- У нас быў бы чалавекам, а ў іх хоць і Свіннін, а ўсё ж не Каровін, - уставіў Цыпрыян.

- Едзь у Маскоўшчыну, свінка, Свінніным будзеш, - падрахаваў Багуміл пад усмешкі сяброў.

Перакідаючыся жартамі, уклалі ў самапалы набоі, злавілі колькі маскоўскіх коней, каб мець на запас, і нават не пусціліся ў такія любыя для моладзі ўспаміны, хто каго і як сёння паклаў, хто пра што думаў, чаго спадзяваўся ад іншых.

Калі ўсе былі гатовыя рушыць далей, Цыпрук глянуў на Весту:

- Дык што ты там казаў пра Чорнага Ступака?

- А на чым я спыніўся?

- На ваяводзе...

- Ага. Ваяводам быў тады ў Смаленску славуты шляхціц Ян Гаштольд...

*(Чакаем кнігу, спадар Сяржук.)*

# Успаміны Алеся Белакоза

У выдавецтве "Кнігазбор" выйшла з друку кніга "Музей у Гудзевічах", якую напісаў заслужаны работнік культуры Беларусі Алесь Мікалаевіч Белакоз - чалавек, якога ў Беларусі ведаюць усе. Не бывае дня, каб людзі не тэлефанавалі яму альбо не прыехалі да яго ў Гудзевічы, што на Мастоўшчыне, каб асабіста пабачыцца і пагутарыць з ім. Гэта кніга не толькі пра лёс дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея, створанага на базе школьнага літаратурна-краязнаўчага музея ў Гудзевічах. Гэта кніга пра тыя падзеі, якія адбываліся ў вёсцы на працягу некалькіх стагоддзяў, пра тых людзей, якія дапамагалі і стваралі, разам з Алесем Мікалаевічам і вучнямі гэты музей. А таксама пра тых, хто шкодзіў музею, хто не хацеў, каб ён быў, існаваў, дзейнічаў.




Школьны музей у Гудзевічах прыняў сваіх першых наведвальнікаў 2 лютага 1968 года. Яго адкрыццё было прымеркавана да 130-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Першыя экспанаты датуюцца 1965 годам. Менавіта яшчэ тады дзеці пад кіраўніцтвам Алеся Мікалаевіча Белакоза пачалі пісаць лісты пісьменнікам, мастакам, дзеячам навукі і культуры з просьбай даслаць выказванне пра беларускую мову, чарнавік ці рукапіс свайго твора, кнігу з аўтографам. Калі назбіралася многа матэрыялаў, і быў адчынены школьны літаратурна-краязнаўчы музей. Спачатку музей размяшчаўся толькі ў адным пакойчыку, а калі ў 1981 годзе пабудавалі новую двухпавярховую школу, тады пад музей аддалі цэлы будынак старой школы, які размясціў чатыры экспазіцыйныя залы і калідор. Яны былі адчынены ў 1984 годзе.

Яшчэ ў 1980 годзе мясцовы калгас дапамог перавезці з вёскі Семярэнкі да музея хатку, пабудаваную ў канцы XVIII стагоддзя. Першая экскурсія ў ёй была праведзена 6 студзеня 1981 года. А пазней калгас дапамог перавезці да хаткі свіронак. У 1990 годзе загадам Гарадзенскага ўпраўлення культуры № 10 ад 12 лютага 1990 года на аснове рашэння Мастоўскага раённага Савета народных дэпутатаў № 269 ад 17 студзеня 1990 года музей у Гудзевічах стаў дзяржаўным. Тады ж пад музей быў перададзены другі школьны будынак, дзе ў гэты ж год была адчынена зала "Народная медыцына", праект якой бясплатна зрабіў мастак Алесь Ступень. У гэтым жа будынку ў 1990 годзе былі афармлены дзве залы "Лёну і народнага ткацтва", дзе сабраны ўсе прылады, якія патрэбны для таго, каб лён ці воўна ператварыліся ў тканіну, паказаны ўсе ўзоры тканін, якія выраблялiся ў тамтэйшай мясцовасці, а таксама ўнікальная калекцыя падвойных дываноў. Потым адчыніліся экспазіцыйныя залы. А ў 1997 годзе была зроблена зала "Гісторыя Гудзевіч у дакументах і фотаздымках" і г.д.

Так паціху музей пашыраўся і жыў. Хаця ў стварэнні яго, у пошуках матэрыялаў для яго, існавала нямала перашкод. Але іх змог адолець няўрымслівы і апантаны справай Алесь Белакоз. Чалавек-легенда, якім мы павінны заўсёды ганарыцца. І мы ганарымся ім, ім - народным настаўнікам, збіральнікам, музейшчыкам, краязнаўцам, літаратарам, вялікім беларусам ХХ - пачатку XXI стагоддзяў. Алесь Мікалаевіч - шчыры і мужны беларус, патрыёт, чалавек, для якога Беларусь - сэнс усяго жыцця.

Кніга "Музей у Гудзевічах" - доказ таго, як няпроста і нялёгка ствараліся падобныя беларускія музеі. Колькі папахадзіў, паабіваў парогаў Алесь Мікалаевіч дзеля свайго музея. Яму запісвалі вымовы, наладжвалі ў школе праверкі, абзывалі нацыяналістам, цягалі ў КДБ, а ён рабіў сваю справу, рабіў упарта і натхнёна, спакойна і… заўсёды. Не ўсё задуманае ім спраўдзілася, адбылося, захавалася для нашчадкаў. Але ён вытрымаў, перажыў, адолеў.

Гэта кніга - жменька праўдзівых успамінаў мудрага настаўніка з Гудзевічаў. Каб мы жылі, каб жыла ў свеце Беларусь, каб жыла наша мова, каб захавалася наша багатая спадчына. Верыцца, што кніга Алеся Белакоза прачытаецца з цікавасцю. Яна навучыць многіх з нас не спяшыцца перад цяжкасцямі, перад сваімі марамі і задумкамі, не здавацца перад тымі, хто хоча знішчыць нашу беларускасць.

*Сяргей ЧЫГРЫН.*

# 25-томнік Уладзіміра Караткевіча - прэзентаваны першыя два тамы



19 снежня ў Менску на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта адбылася прэзентацыя першых двух тамоў паэзіі 25-томніка Уладзіміра Караткевіча, якія выйшлі накладам у 2 тысячы асобнікаў кожны ў сталічным выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Тамы яшчэ не паступалі ў кніжныя крамы, і кошт кожнай кнігі будзе складаць каля 60 тыс. рублёў. Наступныя тры тамы з прозай класіка беларускай літаратуры запланавана выдаць у наступным годзе. Збор твораў Караткевіча рыхтуе кафедра беларускай літаратуры і культуры БДУ пад кіраўніцтвам кандыдата філалагічных навук, дацэнта Анатоля Вераб'я. А ўсё поўнае навукова-каментаванае выданне творчай спадчыны пісьменніка мяркуецца завяршыць да 2020 года, калі будзе адзначацца 90-годдзе з дня нараджэння Караткевіча.

Дэкан філфака БДУ, доктар філалагічных навук, прафесар Іван Роўда выказаў вялікую падзяку дацэнту Анатолю Вераб'ю, дзякуючы ініцыятыве і высілкам каторага і пабачылі свет першыя тамы зборы твораў Караткевіча. Роўда звярнуў увагу на тое, што ўпершыню збор твораў беларускага пісьменніка выйшаў пад грыфам "Філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта" таму, што большасць чальцоў рэдкалегіі серыі з'яўляюцца супрацоўнікамі філфака.



*Анатоль Верабей*

Галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп паведаміў, што на збор падпісаліся каля 1 тыс. падпісчыкаў, а таксама выказаў спадзяванне, што іх колькасць будзе ўзрастаць з выданнем кожнага наступнага тома, кожны з каторых, на яго думку, давядзецца выдаваць дадатковым накладам. "Сонца Караткевіча, яго душа, яго творы - проза, паэзія, драматургія і малюнкі заўсёды будуць з намі, яны будуць нашай візітоўкай у гэтым свеце, бо ёсць Караткевіч - ёсць мы і філалагічны факультэт БДУ, які рыхтуе настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры", - сказаў Шніп. Ён назваў збор "своеасаблівым замкам, у якім мы будзем бачыць самога Караткевіча, сваіх продкаў і тую Беларусь, пра якую марыў пісьменнік".



Сярод твораў паэзіі, што не друкаваліся пры жыцці Караткевіча ці ўвогуле друкуюцца ўпершыню, укладальнік серыі Анатоль Верабей назваў "І зашумяць асіны над ракою…, "Энтузіясту", "Слова Міцкевічу, "Зямля дзядоў, "Каханне маё чарнавокае", "Ода Радзіме", "Ліста нямае" і паэтычныя прысвячэнні сябрам (I том), "Вуліца касманаўтаў", "Паланэз Агінскага", "Васілю Быкаву", наследаванне Уладзіславу Сыракомлю, калядныя віншаванні выбітным дзеячам беларускай навукі і культуры, а таксама эпіграмы на іх (II том). Пры падрыхтоўцы тамоў удакладняліся даты напісання і крыніцы першых публікацый твораў, выпраўляліся недакладнасці, рабіўся істотны гісторыка-тэксталагічны каментарый, адзначыў навукоўца. Ён выказаў вялікую ўдзячнасць усім, хто спрычыніўся да выдання першых тамоў збору Караткевіча, якога Верабей назваў "рыцарам сумлення і свабоды".

Дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея-архіва літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка выказала надзею, што выданне збору дазволіць выявіць "унікальны грандыёзны архіў Караткевіча, які ўсюды, як і сам пісьменнік".

У трэці том увойдуць казкі і апавяданні, у чацвёрты і пяты - легенды і аповесці, у шосты - раман "Нельга забыць", у сёмы і восьмы - раман "Каласы пад сярпом тваім", у дзявяты - раман "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", у дзясяты - раман "Чорны замак Альшанскі". Акрамя таго, запланавана выданне тома драматургіі, дзвюх кніг публіцыстыкі, эсэістыкі і крытыкі, двух тамоў эпісталярнай спадчыны, кнігі перакладаў і аўтаперакладаў, тамы малюнкаў пісьменніка, а таксама трох кніг сцэнарыяў і лібрэта. У збор увойдуць дзённікі, запісныя кніжкі, дароўныя надпісы, дапаўненні папярэдніх тамоў збору, летапіс жыцця і творчасці Караткевіча. Тамы публіцыстыкі, эсэістыкі і крытыкі будуць дапоўнены кампакт-дыскам з аўдыёзапісамі выступленняў пісьменніка.

Падчас прэзентацыі экспанавалася выстава выданняў Караткевіча розных гадоў.

*Марат Гаравы, novychas.info.*

# "Калядны харал" у гонар Калядаў і юбілею Дыкенса

Адзначыць блізкія Каляды, а таксама 200-годдзе класіка ангельскай літаратуры Чарлза Дыкенса "Прайдзі-Свет" прапануе за чытаннем яго самай знакамітай аповесці "Калядны харал". На беларускую мову аповесць, што выйшла электроннай кнігай у выдавецтве Змітра Коласа, пераклала Ганна Янкута. "Калядны харал" даступны для пампавання ў двух фарматах, прызначаных для электронных чыталак: .EPUB і .MOBI.

"Калядны харал" - першая калядная аповесць, напісаная Чарлзам Дыкенсам, і ўвогуле першая ў свеце гатычная калядная аповесць, якая запачаткавала цэлы жанр, што дагэтуль не страчвае папулярнасці. Не страчвае папулярнасці і сам "Калядны харал" - у Вялікабрытаніі гэтая кніга ўвесь час дадрукоўваецца і ніколі не знікае з кнігарняў, асабліва попыт маючы, безумоўна, у перадкалядны час. Імя "Скрудж" даўно ўвайшло ў ангельскія слоўнікі як сінонім да слова "скнара", а любімы выраз галоўнага героя "Цьху, шахрайства!" даў, напрыклад, назву гатунку піва. Напісаны з мэтай прыцягнуць увагу да вострых сацыяльных праблемаў, "Калядны харал" зрабіўся адной з самых дасціпных у ангельскай літаратуры кніг для чытачоў усіх узростаў, такім самым сімвалам зімовых святаў, як вастраліст, смажаная гуска і калядны пудынг.

Перакладчыца дзякуе Антону Францішку Брылю і Кацярыне Мацiеўскай за дапамогу ў падрыхтоўцы выдання.

*prajdzisvet.org.*

**Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
**Адрас рэдакцыі:** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** naszaslowa@tut.by

**Рэдакцыйная калегія:**
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Юля Карчагіна, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Кастусь Палубятка, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.
http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/

**Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі**

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26.12.2012 г. у 10.00. Замова № 2112.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 4450 руб., 3 мес.- 13350 руб.
**Кошт у розніцу:** па дамоўленасці.